ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№5 (134) май 2022 год
CATHOLICNEWS.BY

# “Гісторыя наступнага стагоддзя ўжо сёння залежыць ад нас”. 200-годдзе заснавання касцёла адзначылі ў Дзеркаўшчыне









**9 мая ў Дзеркаўшчыне, што на Глыбоччыне, урачыста адзначылі 200-годдзе з часу заснавання парафіяльнага касцёла Унебаўшэсця Пана.**

■ Марына Сінкевіч, тэкст і фота; Леанід Юрык, відэа

З гэтай нагоды цэлебрацыю ўрачыстай святой Імшы ўзначалілі біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч і святары, якія прыехалі, каб раздзяліць радасць святкавання разам з Дзеркаўшчынскай парафіяй.

Касцёл пад тытулам Унебаўшэсця Пана заснаваны 7 мая 1822 года, пра што сведчыць памятная шыльда.

Шаноўных гасцей – біскупа Алега і арцыбіскупа Тадэвуша – вернікі прывіталі хлебам-соллю перад святыняй.

На самым пачатку Імшы мясцовы пробашч кс. канонік Валерый Орсік прывітаў прысутных святароў і вернікаў і падкрэсліў, што “гэта гістарычная падзея для ўсёй Віцебскай дыяцэзіі. Сёння распачынаецца далейшы адлік часу для нашай святыні”.

Дзвесце гадоў у гісторыі Сусвету – невялікая адлегласць, але ў гісторыі чалавека – гэта дастаткова вялікі перыяд. Дзвесце гадоў на зямлі, якая няспынна перажывае войны, зямлі, якая акропленая крывёй шматлікіх мучанікаў, цешыцца з гэтай святыні, што вытрымала няпростыя гады і шмат выпрабаванняў. Гэта знак прысутнасці Божай на гэтай зямлі”, – прамовіў старшыня Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў у Беларусі.

Касцёл пабудаваў у пачатку XIX стагоддзя ўладальнік тых мясцін Лявон Дамейка. Гэта быў час, калі нашы землі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай трапілі ў склад Расійскай імперыі, а царская ўлада забараніла будаваць каталіцкія храмы. Таму Дамейка пайшоў на падман: ён пачаў будаваць касцёл як свіран, а ўжо пасля яго ўдалося асвяціць менавіта як касцёл.

Праўда, паводле злой іроніі лёсу, храм усё ж быў некаторы час свірнам. У 1960 годзе, пасля смерці тагачаснага пробашча ксяндза Яна Макшэцкага, святыню ў вернікаў забралі іператварылі ў збожжасховішча. Потым будынак доўгі час стаяў наогул закінуты.

У 1989 годзе напаўразбураную святыню вярнулі парафіі. Пачаліся працы па яе аднаўленні. Нягледзячы на цяжкасці з будматэрыяламі і фінансамі ў той няпросты час, касцёл аднавілі за дзесяць месяцаў. Гэта стала магчымым дзякуючы вялікай самаахвярнасці і энтузіязму людзей.

З нагоды юбілею арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч падчас гаміліі ўзгадаў 1980-90-ыя гады мінулага стагоддзя, калі вярталася і аднаўлялася дзеркаўшчынская святыня. І нарэшце, “сталася тое, што павінна было стацца. Справядлівасць стала на сваім месцы, праўда стала на сваім месцы. Праўду і справядлівасць можна замаўчаць, можна пахаваць, але яны ўваскрэснуць. І ваш касцёл сведка гэтаму”.

Прывітальны ліст са словамі віншавання да парафіян у Дзеркаўшчыну скіраваў ардынарый Іркуцкай дыяцэзіі біскуп Кірыл Клімовіч, які не змог прыехаць, але духоўна яднаўся ў малітве. Іерарх падкрэсліў у лісце, што “святкаванне юбілею аднačасова з'яўляецца і заданнем, каб і ў наступным стагоддзі вера не аслабла ў сэрцах людзей, каб не паддаваліся спакусе жыцця толькі для цела, і каб гэтая ўзнёслая святыня магла весці да Бога ўсё больш вызнаўцаў Езуса Хрыста. Гісторыя наступнага стагоддзя ўжо сёння залежыць ад нас”, – падкрэсліў ардынарый.

Напрыканцы Імшы са словамі падзякі да біскупаў звярнулася Ірына Дземідовіч, якая, будучы ва ўзросце сваёй дачкі Кацярыны, трыццаць два гады таму, акурат 15 мая, вітала біскупа Тадэвуша Кандрусевіча, які асвяціў адноўлены касцёл.

Пасля бласлаўлення адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту. Вернікі разам са святарамі памаліліся Літаніяй да святога Мікалая, а потым прайшлі святочнай працэсіяй вакол касцёла.

Трэба адзначыць, што ўрачыстасці вельмі паспрыяла надвор'е, якое ў гэты дзень было проста цудоўным. Ярка свяціла сонейка, вакол храма ўсё патанала ў квецені. А таму свята ў парафіі толькі малітвай не закончылася. Вернікаў чакалі яшчэ салодкі пачастунак і канцэрт на свежым паветры.















# Кардынал: "Пантыфік у інвалідным вазку – узор для пажылых"



**На прыклад, які дае пажылым людзям Папа Францішак, асабліва ў апошнія дні, калі ён востра адчувае сваю рухальную абмежаванасць, звярнуў увагу прэфект Дыкастэрыі па справах свецкіх, сям'і і жыцця.**

"Папа пагаджаецца на абмежаванні, якія сустракаюць яго сёння, прымае іх шчодра і велікадушна. Ён з'яўляецца прыкладам для ўсіх нас, бо не варта хаваць, што з узростам нашы магчымасці актыўна ўдзельнічаць у жыцці сучаснага свету слабеюць", – адзначыў кардынал Кэвін Фарэл.

На яго думку, Пантыфік, нягледзячы на фізічныя і ўзроставыя абмежаванні, не збіраецца спыняцца. Ён паказвае, што, сутыкнуўшыся з рознымі абмежаваннямі ў старасці, чалавек павінен рухацца наперад і рабіць усё магчымае.

"Святы Айцец з'яўляецца выдатным узорам для ўсіх пажылых людзей. Тое, што ў гэтыя дні праз праблемы з каленам ён перасоўваецца на інвалідным вазку, не азначае адмовы ад штодзённых абавязкаў. Ён амаль кожны дзень мае аўдыенцыі, сустракаецца і размаўляе з людзьмі, як і месяц таму, калі інваліднага вазка не было. Жыццё працягваецца. Вось што Папа Францішак хоча сказаць усім пажылым людзям", – заўважыў кардынал Фарэл падчас прэзентацыі паслання на II Сусветны дзень дзядуль, бабуль і пажылых людзей.

На мерапрыемстве, якое прайшло 10 мая ў Ватыкане, ішла гаворка, у тым ліку, пра пажылых людзей ва Украіне, якія, нягледзячы на вайну, не змаглі эвакуявацца. "Магу толькі паўтарыць за Папам: я пакутую і плачу, думаючы пра пакуты Украіны", – сказаў прэфект Дыкастэрыі па справах свецкіх, сям'і і жыцця.

# Кардынал Кох: падтрымліваць вайну ва Украіне – не па-хрысціянску

**Падзеі ва Украіне сур'ёзна ставяць пад сумнеў праваслаўную канцэпцыю царкоўна-дзяржаўнай сімфоніі, – адзначыў кардынал Курт Кох.**

Старшыня Папскай рады спрыяння хрысціянскаму адзінству прызнаў, што з прычыны вайны ва Украіне дыялог з Рускай Праваслаўнай Царквой апынуўся ў вельмі складанай сітуацыі. Паводле яго, гэты дыялог павінен працягвацца, каб нагадваць, што хрысціяне заўсёды павінны служыць міру, а не падтрымліваць вайну. У гэтым кантэксце важнай стала нядаўняя размова Папы з Патрыярхам Маскоўскім.



"Дыялог ні ў якім разе нельга перарываць, бо гэта адзіны спосаб выкласці ўласную пазіцыю. Францішак вельмі ясна даў зразумець падчас відэазванка, што ён удзячны за сустрэчу. Затым ён сказаў: мы не капеланы дзяржавы, а пастыры народа, і таму ў нас няма іншага паслання, акрамя як спыніць вайну. Гэта быў вельмі выразны пасыл. Але ці дайшоў ён да Патрыярха, сказаць не магу", – падзяліўся кардынал Кох.

Іерарх лічыць, што настаў момант абмеркаваць з праваслаўнымі пытанне пра адносіны паміж дзяржавай і Касцёлам. "У нас на гэты конт дзве абсалютна розныя канцэпцыі. На Захадзе мы вымушаныя былі засвоіць, што правільныя адносіны паміж Касцёлам і дзяржавай – гэта падзел пры адначасовым партнёрстве абодвух суб'ектаў. Такога падыходу не ведаюць на Усходзе, у праваслаўі. Там гавораць пра царкоўна-дзяржаўную сімфонію. І гэта канцэпцыя ляжыць у аснове цяперашніх падзей", – заўважыў старшыня Папскай рады спрыяння хрысціянскаму адзінству. Ён лічыць, што вайна ва Украіне сур'ёзна ставіць пад сумнеў гэтую канцэпцыю.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Завяршыўся IV Дыяцэзіяльны конкурс на веданне Святога Пісання 2022



**Фінал Дыяцэзіяльнага конкурсу на веданне Святога Пісання 2022 адбыўся 23 красавіка ў Віцебскай катэдры. Ужо чацвёрты год запар конкурс аб'ядноўвае дзяцей, якія любяць і пазнаюць Божае слова. Арганізацыяй займаецца Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі.**

Падрыхтоўка да сёлетняга конкурсу распачалася нашмат раней, напрыканцы 2021 года. Дзеці разам з катэхетамі вывучалі змест 1 Кнігі Самуэля са Старога Запавету і Апостальскіх Пасланняў Якуба, 1 Пятра, 2 Пятра, Юды з Новага Запавету. *"Рыхтавацца было нялёгка,* – прызнаецца с. Ірына Папакуль з Браслава. – *Да кожнага раздзелу Святога Пісання я рабіла слайды, каб дзецям было прасцей засвойваць матэрыял. Мне ў гэтым дапамагала і старэйшая моладзь, а асабліва міністрант Міхаіл Шульгоўскі, які і сам прымаў удзел у конкурсе ў папярэднія гады".*

Першы, парафіяльны этап конкурсу адбыўся пад канец лютага. У ім удзельнічала амаль дзвесце дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў уключна з Віцебскай дыяцэзіі і Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Падрыхтоўкай пытанняў займалася дыяцэзіяльны каардынатар конкурсу с. Дар'я Галубкова разам з валанцёркай "Карытас" Лалітай Арлоўскай, для якой гэта ўжо не першы такі вопыт. *"Я вельмі чакала гэты конкурс, мне падабаецца быць яго часткай: шукаць у Бібліі цікавыя радкі і складаць пытанні, правяраць аркушы са зробленымі заданнямі"*, – распавядае Лаліта і дадае, што, напэўна, самае цяжкае – гэта прыдумваць няправільныя адказы для пытанняў у форме тэсту.

Пасля другога адборачнага этапу ў фінал прайшлі 50 удзельнікаў з 25 парафій. Гэта быў зусім не "сухі" іспыт, а сапраўдны цудоўнае святочнае спатканне дзяцей, катэхетаў, сясцёр, святароў. Тут былі і супольная малітва, і цёплая атмасфера, і смачны пачастунак, і вясёлая забава, і падарункі, і, вядомаж, цікавыя заданні, складаныя пытанні і выдатнае веданне Святога Пісання, якое паказалі нашы дзеткі і моладзь.

**Пераможцамі конкурсу сталі:**

***У малодшай катэгорыі: (да 11 гадоў уключна)***

1 **Каралькова Аўрэлія**, парафія св. Казіміра ў Маладзечне, катэхет: с. Фаўстына Адамовіч;

2 **Якубовіч Дар'я**, парафія Нараджэння Маці Божай у Браславе, катэхет: с. Ірына Папакуль;

3 **Макавецкая Маргарыта**, парафія св. Яна Хрысціцеля ў Мінску, катэхет: с. Юлія Клевец.

***У старэйшай катэгорыі: (12-14 гадоў)***

1 **Пяткевіч Вераніка**, парафія Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста ў Наваполацку, катэхет: сп. Вікторыя Шанцава;

2 **Чабоха Ганна**, парафія Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста ў Наваполацку, катэхет: сп. Вікторыя Шанцава;

3 **Бярдоўская Анастасія**, парафія Езуса Міласэрнага ў Віцебску, катэхет: с. Серафіна Мацулевіч.

Аўрэлія Каралькова, пераможца ў малодшай катэгорыі, падзялілася сваімі ўражаннямі: *"Падчас падрыхтоўкі да конкурсу мне было дужа цікава чытаць зададзеныя кнігі. Я заўважыла, што Слова Божае дапамагае мне ў жыцці. Калі мы прыехалі ў Віцебск, я крыху хвалявалася, хоць заўсёды сабе паўтарала, што галоўнае не перамога, а ўдзел. Я трапіла ў другі тур, адказала на ўсе пытанні і ўжо спакойна чакала вынікаў. Хваляванне вярнулася, калі пачалі абвяшчаць прызавыя месцы, аднак калі назвалі маё імя, то на душы зрабілася радасна! Я вельмі ўдзячная Пану Богу і ўсім, хто мне дапамагаў у падрыхтоўцы да конкурсу!"*

Цудоўна, калі ў нашых парафіях ёсць дзеці, якія ахвотна і руплліва вывучаюць Слова Божае, і дарослыя, якія іх у гэтым падтрымліваюць. Як слушна адзначыў кс. Віктар Місевіч, Канцлер Віцебскай дыяцэзіі, падчас Святой Імшы на пачатак фіналу, "калі мы з кімсьці сябруем, то хочам ведаць больш пра гэтую асобу. Езус з'яўляецца нашым найлепшым Сябрам, і таму мы павінны імкнуцца пазнаваць Яго праз Святое Пісанне".

"Карытас" Віцебскай дыяцэзіі шчыра дзякуе ўсім, хто прычыніўся да арганізацыі і правядзення конкурсу, асабліва нашым партнёрам з "Карытас" Лінц (Аўстрыя) за фінансавую падтрымку і валанцёрам "Карытас" за працу па забеспячэнні мерапрыемства. І да сустрэчы ў наступным годзе!

*Больш фота можна знайсці ў альбоме на старонцы "Карытас" Віцебск Укантакце:*



*с. Дар'я Галубкова OV,*
*дыяцэзіяльны каардынатар*



# Пахаванне ксяндза-пралата Ежы Лявінскага прайшло ў Гродне

**6 мая ў парафіі Адшукання Святога Крыжа ў Гродне (пабернардынскі касцёл) адбылося пахаванне ксяндза-пралата Ежы Лявінскага – шматгадовага выкладчыка Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, найстарэйшага святара ў нашай краіне.**

Заслужаны святар у Гродзенскай дыяцэзіі і ўсім Каталіцкім Касцёле ў Беларусі адышоў у вечнасць 3 мая ў Доме міласэрнасці ў Каменцы (Шчучынскі дэканат), куды трапіў праз пагаршэнне стану здароўя на дзень раней. Апошнія трыццаць два гады яго дзейнасць была звязана з семінарыяй у Гродне, дзе ён жыў і выконваў розныя функцыі.

У найстарэйшай каталіцкай святыні горада над Нёманам сабраліся многія святары з усіх беларускіх дыяцэзій. Прыбылі таксама законныя сёстры, у дачыненні да многіх з якіх ксёндз-прэлат ажыццяўляў сакрамантальнае служэнне і духоўнае кіраўніцтва, прыйшлі ўдзячныя свецкія вернікі. Да самай смерці ксёндз Лявінскі кожны дзень наведваў пабернардынскі касцёл, дзе дапамагаў святарам служыць у канфесіянале. Усе прысутныя дзякавалі Пану за дар жыцця руплівага святара, якога не толькі духоўныя, але і свецкія асобы часта называлі "апосталам Божай міласэрнасці" і "патрыярхам Гродна".

Святую Імшу ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі, які, калі быў рэктарам семінарыі ў Гродне, а затым дапаможным біскупам Гродзенскай дыяцэзіі, жыў побач з ксяндзом Лявінскім. Суседзі кожны дзень бачыліся і мелі шмат часу на размовы. Эўхарыстыю канцэлебравалі арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч, біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі і каля сотні святароў.

Гамілію прамовіў арцыбіскуп Кандрусевіч, які, бадай, найлепей ведаў спачылага. У 1990 г., калі ў Гродне з'явілася семінарыя, тагачасны біскуп Кандрусевіч запрасіў ксяндза Лявінскага працаваць у ёй і ўдзельнічаць у фармацыі будучых святароў, якіх на сённяшні дзень выйшла з яе больш за дзвесце і якія служаць у розных частках нашай краіны і за мяжой.

Арцыбіскуп на пенсіі падкрэсліў, што ксёндз Ежы з першых дзён запомніўся як патрабавальны да сябе і да семінарыстаў выхаваўца, шмат сэрца ўклаў у фармацыю будучага духавенства, усталёўваў розныя кантакты, каб навучальная ўстанова магла развівацца і добра функцыянаваць.

На заканчэнне Імшы біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, звяртаючыся да прысутных, адзначыў, што служэнне ксяндза-пралата Лявінскага, якое доўжылася больш за трыццаць гадоў, упісана залатымі літарамі ў гісторыю мясцовага Касцёла, пакінула прыгожы і трывалы след у памяці святароў, законных сясцёр, свецкіх вернікаў Гродна і наваколля.

Генеральны вікарый Гродзенскай дыяцэзіі ксёндз-канонік Аляксандр Мацкевіч зачытаў спачуванні, дасланыя з нагоды смерці ксяндза-пралата.

Біскуп Сандамірскі (Польшча) Кшыштаф Ніткевіч, да дыяцэзіі якога належаў спачылы, у сваім лісце піша, што дзякуе Богу за ахвярнае служэнне ксяндза Лявінскага ў гэтай дыяцэзіі і выказвае радасць, што ажыццявілася жаданне ксяндза-пралата спачыць у чаканні дня ўваскрасення сярод людзей, якім ён служыў.

Старшыня Таварыства дапамогі Касцёлу на Усходзе пры Сакратарыяце Канферэнцыі Біскупаў Польшчы біскуп Антоні Пацыфік Дыдыч адзначае, што ксёндз Лявінскі стаяў ля пачаткаў заснавання такой важнай і адзінай у тыя часы ўстановы, якой з'яўляецца Вышэйшая духоўная семінарыя ў Гродне, і жадаў да самай смерці заставацца сярод тых, каму прысвяціў трыццаць два гады свайго святарскага жыцця, каб даваць ім маўклівае сведчанне вернасці Богу да канца.

Ксёндз-канонік Раман Катлімоўскі, які шмат гадоў быў звязаны з Гродзенскай дыяцэзіяй, а зараз служыць у Польшчы, адзначыў, што менавіта ксёндз Лявінскі 20 сакавіка 1990 г. прывёз яго ў Гродна, дзе яны разам утваралі "аблічча духу" семінарыйнай супольнасці.

Рэктар семінарыі ў Гродне ксёндз Віталь Вайцяхоўскі падзякаваў усім удзельнікам літургіі за малітву ў інтэнцыі спачылага.

Рэктар падкрэсліў, што ксёндз Лявінскі назаўсёды застанецца ў памяці семінарыстаў і святароў, якія многім абавязаны яму, а яго смерць – вялікая страта для супольнасці гэтай навучальнай установы і нашага Касцёла.

Затым пахавальная працэсія накіравалася на старыя каталіцкія могілкі. Там адбылося пахаванне.

Дзякуючы Пану за дар жыцця ксяндза-пралата Ежы Лявінскага, асоба якога ўзбагаціла Касцёл на Гродзеншчыне і ва ўсёй нашай краіне, будзем прасіць добрага Бога адарыць яго жыццём вечным у небе!

*Кс. Юрый Марціновіч*
*Фота:* ***Аляксей Ціхан***
*Grodnensis.by*






**Ксёндз-пралат Ежы Мар'ян Лявінскі нарадзіўся 2 студзеня 1930 г. у Дзятлаве. Разам з сям'ёй быў вывезены ў Сібір. Вышэйшую духоўную семінарыю скончыў у Сандаміры (Польшча), у тым жа горадзе 29 мая 1955 г. біскуп Ян Лорка ўдзяліў яму прэзбітарскае пасвячэнне.**

**У савецкія часы ён ездзіў на душпастырскую працу ў Беларусь, Расію і Казахстан, дзе па меры магчымасці абвяшчаў Евангелле, цэлебраваў Імшы, спавядаў.**

**Праз шэсць гадоў душпастырскага служэння быў накіраваны на вучобу ў Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт, пасля заканчэння якога абараніў кандыдацкую дысертацыю па кананічным праве.**

**З 1968 па 1990 гг. працаваў у дыяцэзіяльнай курыі ў Сандаміры. З пачатку існавання Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне быў яе выкладчыкам, некаторы час – прэфектам.**

**З'яўляўся Ганаровым капеланам Яго Святасці, Грэміяльным канонікам Сандамірскага капітулу, Ганаровым канонікам Гродзенскага капітулу.**

# Святы Барнаба. Сябра апостала Пятра і апостал Кіпра

**11 чэрвеня Каталіцкі Касцёл успамінае Святога апостала Барнабу. Кім быў гэты чалавек і чаму ён стаў адным з самых блізкіх сяброў апостала Пятра? Прапануем вам пазнаёміцца з гэтай гістарычнай асобай бліжэй.**

**Барнаба, які Юзаф**

Святы апостал Барнаба нарадзіўся ў пачатку I ст. на Кіпры ў сям'і багатых габрэяў і быў названы Юзафам. Адукацыю ён атрымаў у Ерусаліме, выхоўваючыся разам са сваім сябрам і аднагодкам Саулам (будучым апосталам Паўлам) у знакамітага ў той час настаўніка Гамалііла. Юзаф быў пабожны, часта наведваў храм, строга прытрымліваўся посту, захоўваў сябе ад юнацкіх захапленняў.

У той час Езус Хрыстус распачаў абвяшчэнне Евангелля. Убачыўшы Госпада і пачуўшы Яго словы, Юзаф паверыў у Яго як у Збаўцу, загарэўся да Яго любоўю і рушыў услед за Ім. Госпад абраў яго ў ліку 70-ці вучняў.

Сярод вучняў Хрыста Юзаф атрымаў новае імя – Барнаба, што па-габрэйску значыць "сын суцяшэння". Пасля Унебаўшэсця Госпада на Неба ён прадаў маёмасць, якая належала яму блізу Ерусаліма, зямлю і прынёс грошы да ног апосталаў, нічога не пакінуўшы сабе (Дз 4, 36- 37).

**Сяброўства з апосталам Паўлам і апостальскае служэнне**

Калі Саул (апостал Павел) пасля свайго навяртання ў 37 годзе прыйшоў у Ерусалім і хацеў далучыцца да вучняў Хрыстовых, усе асцерагаліся яго як нядаўняга ганіцеля. Барнаба ж прыйшоў з ім да апосталаў і расказаў, як Госпад з'явіўся Саулу на шляху ў Дамаск (Дз 9:26-28). З гэтага часу ён стаў спадарожнікам і блізкім супрацоўнікам у справе абвяшчэння Евангелля падчас першага місіянерскага падарожжа Апостала народаў.

Па даручэнні апосталаў святы Барнаба прапаведаваў у Антыёхіі разам з апосталам Паўлам. Разам яны каля года вучылі народ у адным з мясцовых касцёлаў. Менавіта тады людзі ўпершыню сталі звацца хрысціянамі. Неўзабаве яны вярнуліся ў Ерусалім. Калі цар Ірад забіў апостала Якава Зеведзеева і ва ўгоду юдэям узяў пад варту апостала Пятра, святыя апосталы Барнаба і Павел, выведзеныя з вязніцы Анёлам Гасподнім, схаваліся ў доме цёткі Барнабы, Марыі. І як толькі ганенне сціхла, яны вярнуліся ў Антыёхію, узяўшы з сабой сына Марыі Яна, празванага Маркам.

Пазней яны адплылі на Кіпр, дзе ў горадзе Саламін прапаведавалі Слова Божае ў іудзейскіх сінагогах.

Апосталы пабывалі ў Пергіі Памфілійскай, а затым прапаведавалі юдэям і язычнікам у Антыёхіі Пісідыйскай. Юдэі выгналі Паўла і Барнабу. Тады апосталы прыйшлі ў Іканію, але даведаўшыся пра тое, што юдэі хочуць пабіць іх камянямі, адышлі ў Лістру і Дэрвію. Там апостал Павел аздаравіў чалавека, які ад нараджэння не варушыў нагамі. Народ прыняў іх за багоў Зеўса і Гермеса і хацеў прынесці ім ахвяру. Апосталы ледзь пераканалі людзей не рабіць гэтага.

Акрамя Антыёхіі і Кіпра, Барнаба першым прапаведаваў вучэнне Хрыста ў Рыме і заснаваў біскупскую катэдру ў Мілане, а пасля вяртання на востраў працягнуў несці Слова Божае народу Кіпра.



**Мучаніцкая смерць Барнабы**

Аднак не ўсім прыйшліся даспадобы прамовы Святога Апостала. Разлютаваныя юдэі паднялі язычнікаў супраць Барнабы. Яго вывелі з горада і забілі камянямі. Язычнікі распалілі вогнішча, каб спаліць цела, але гэта ім не ўдалося. Пазней, прыйшоўшы на гэтае месца, Марк узяў цела Апостала, якое засталося цэлым, і пахаваў у пячоры. Паводле яго запавету, Марк паклаў на грудзі Апостала перапісанае яго ўласнай рукой Евангелле ад Мацвея.

Памёр апостал Барнаба каля 62 г., на 76 годзе жыцця. З цягам часу месца пахавання Апостала ў пячоры было забыта. Але адбываліся шматлікія з'явы на гэтым месцы. У 448 годзе пры імператару Зянону апостал Барнаба тройчы з'яўляўся ў сне арцыбіскупу Кіпра Анфіму і паказаў месца пахавання сваіх мошчаў. Пачаўшы капаць ва ўказаным месцы, хрысціяне знайшлі нятленнае цела Апостала і святое Евангелле, якое ляжала на яго грудзях.

Святога Барнабу называюць "Апосталам Кіпра" і просяць у яго абароны ад сварак, ад смутку і ад граду.

*Падрыхтавала*
**Вікторыя Арфеева**

# Страчаная спадчына: лёс бібліятэкі Пінскай семінарыі (1925-1939)

**У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь у фондзе 4П захоўваецца справа пад назвай “Переписка о библиотеке Пинской семинарии, февраль-май 1941 г.” Справа невялікая па аб’ёме, і толькі 11 яе старонак прысвечаны перапісцы пра лёс бібліятэкі. У чарговы раз прапаную чытачам пазнаёміцца з гістарычнымі дакументамі. Сёння – з перапіскай. Для зручнасці яна была складзеная ў храналагічным парадку (у архіўнай справе храналогія парушаная).**

■ **Раіса Зянюк** – *кандыдат гістарычных навук*



Як вядома, Пінская семінарыя была заснаваная біскупам З. Лазінскім і дзейнічала ў перыяд 1925-1939 гг. Пасля таго, як савецкія войскі занялі тэрыторыю Заходняй Беларусі, семінарыя спыніла сваю дзейнасць. Па звестках кс. Э. Бароўскага, частку бібліятэкі ўжо тады спалілі, а частку вывезлі ў глыб Расіі. Менавіта гэтаму вывазу прысвечаны наяўныя дакументы.

Так, у дакладной запісцы на імя сакратара кампартыі БССР П. Панамарэнкі ад сакратара Пінскага абкама Мінчанкі адзначалася (стыль, арфаграфія і пунктуацыя арыгінала захоўваюцца):

*“Секретарю ЦК КП/б/Б Белоруссии тов. Пономаренко*

*Докладная записка*

*Как была ликвидирована библиотека в гор. Пинске.*

*В гор. Пинске при бывшей католической духовной семинарии осталась библиотека примерно в количестве 40 тысяч томов, состоящих главным образом из богословской, научно исторической, художественной и другой литературы.*

*Литература была на различных языках – латинском, греческом, французском, польском, русском, языках народов Востока и т.д. Среди книг библиотеки имелись ценнейшие издания XV, XVI, XVII и XVIII веков, например: Вольтер – полное собрание сочинений до одной тысячи томов издания 1492 года (верагодна, памылка, магчыма 1792 г. – заўв. Р.З.). Имелся также и рукописный фонд. Библиотека представляла большую научную ценность.*

*Помещение бывшей духовной семинарии было занято под военный госпиталь. Руководство госпиталя весь фонд литературы свалило в беспорядочном состоянии в одну комнату и неоднократно настаивало освободить помещение.*

*В мае месяце Секретарь Обкома по пропаганде тов. Улазов обращался в Академию Наук БССР к тов. Горину и просил оказать помощь в разборе и определении пользования этой библиотеки. Однако, со стороны Академии Наук не были приняты соответствующие меры.*

*Командированный Академией Наук один товарищ ничего не сделал, только посмотрел и уехал. 17 мая 1940 года зам. зав. отделом пропаганды и агитации Обкома КП/б/Б тов. Бикашов обратился к секретарю ЦК КП/б/Б тов. Малину с письмом, в котором просил воздействовать на Академию наук и прислать специалистов. 5 августа тов. Малин сообщил, что Академии Наук разрешается принять и вывезти в Минск библиотеку и архив быв. духовной семинарии, но представителей Академии так и не было.*

*Зав. Облоно тов. Старикович с ведома зам. зав. отделом пропаганды и агитации обкома КП/б/Б тов. Бикашова обратился в письмом в Центральный антирелигиозный музей с просьбой оказать помощь в разборе библиотеки и принятия некоторого количества книг, имеющих ценность для музея.*

*Центральный антирелигиозный музей прислал своего работника, которому тов. Старикович разрешил вывезти 33 тысячи томов книг, оставшаяся литература находится: около 4 тысяч томов в Городском Парткабинете в неразобранном виде, одна тысяча томов в Пинском музее и две тысячи в городской библитеке.*

*Прошу тов. Пономаренко воздействовать на руководство Академии наук БССР о присылке работника, который бы смог определить ценность и порядок использования оставшейся литературы.*

*Секретарь Пинского обкома КП/б/Б Минченко, исх.№ 399, 15.10.1940”*

Аднак, як вынікае з далейшых дакументаў, ніхто з Акадэміі навук у Пінск не прыехаў. Разам з тым на такія звесткі вельмі хутка адрэагавалі прадстаўнікі Цэнтральнага антырэлігійнга музея ў Маскве. Іх супрацоўнік змог хутка прыбыць на месца і вывезці ўсю бібліятэку ў Маскву. І ўжо на факт вывазу літаратуры адрэагавалі беларускія чыноўнікі, якія пачалі намагацца вярнуць бібліятэку ў Мінск. Яны камандзіравалі ў Маскву выканаўцу абавязкаў вучонага сакратара Інстытута гісторыі М. Лябовіча. Аднак яго дзейнасць па вяртанні бібліятэкі не мела вынікаў. Так, у тэлеграме ад 29.10.1940 г. ён пісаў:

*“Минск ЦЕКА партии Белоруссии Рывкиной*

*(из) Москвы*

*Библиотека разобрана книги за единичными исключениями религиозного характера антирелигиозный музей обещает вернуть лишь литературу общего характера добиться Ярославскому пока не удалось = Лебович”*

Амаль адначасова ён накіраваў у Мінск больш поўны ліст, у якім апісваў свае спробы па вяртанні кніжнага збору ў Мінск:

*“В ЦК КП/б/Б 1.11.40г.*

*25 октября 1940 г. я поехал в Москву имея с собой письмо ЦК КП/б/Б, адресованное директору Центрального Антирелигиозного Музея, по поводу возвращения библиотеки б. католической духовной семинарии в г. Пинске, вывезенной без санкции ЦК КП/б/Б или СНК БССР.*

*Директор ЦАМ тов. Кузьмин категорически отказывается удовлетворить просьбу ЦК КП/б/Б мотивируя тем, что библиотека вывезена по официальному предложению Пинского ОБЛОНО и при содействии Обкома партии. Причем, по заявлению т. Кузьмина, библиотека в момент прибытия представителя Музея находилась без охраны, расхищалась, книги использовались для покрытия ночных горшков. Далее, директор ЦАМ и сотрудник, организовавший на месте перевозку библиотеки утверждают, что вся литература краеведческого характера, относящаяся к Белоруссии, Польше и Литве, затем художественная и вообще научная литература этой библиотеки была отобрана и передана ОБЛОНО и в Обком партии. Кроме того, т. Кузьмин обещал вернуть в Академию все книги, не имеющие религиозного характера, если таковые окажутся при окончательном разборе этого фонда.*

*В ЦАМ мне было показано этот фонд. Около 50 выборочных книг мною рассмотренных, попалась лишь одна /“Тридцатилетняя женщина” Бальзака на немецком языке/, которая не имела сугубо антирелигиозного значения. Остальные книги – это религиозные учебники, евангелье, библии, религиозные журналы, монографии отдельных “святых” и т.п.*

*Ручаться, конечно, за то, что наиболее ценные книги не были уже до моего приезда отобраны и отложены, нельзя.*

*Исходя из этого, я соответственно поручению ЦК КП/б/Б добивался принципиального согласия о возвращении библиотеки б. духовной семинарии целиком. С этой целью я добивался приема к тов. Ярославскому, так как его заместители т.т. Олещук и Лихачов не взяли на себя разрешения этого вопроса. 30 октября, наконец, мне удалось добиться непосредственных переговоров по телефону с тов. Ярославским. По мнению тов. Ярославского нецелесообразно возвращать Белоруссии вывезенную уже библиотеку, имеющую ценность больше для ЦАМ, чем для Академии. Тов. Ярославский считает, что Белоруссия должна сказать ЦАМ спасибо за то, что он спас от окончательной гибели эту библиотеку. Далее тов. Ярославский указал, что аналогичные библиотеки имеются в Западной Белоруссии в достаточном количестве. Нам необходимо озаботиться о спасении и получении таковых. В заключение тов. Ярославский сообщил, что он намерен переговорить в этот же день по прямому проводу с ЦК КП/б/Б по вопросу библиотеки б. католической семинарии.*

*В связи с этим я считал в дальнейшем нецелесообразным добиваться где-либо возвращения этой библиотеки в Белоруссию.*

*31.10.1940 – Лебович М.”*

Яшчэ некалькі лістоў у гэтай справе адлюстроўваюць безвыніковыя спробы дабіцца вяртання бібліятэкі:

*“Москва, 27/2-1941*

*Директору Центрального Антирелигиозного музея тов. Кузьмину*

*Работником Академии Наук Белорусской ССР тов. Лебовичем было получено от Вас заверение, что все книги, вывезенные из библиотеки бывш. Католической духовной семинарии гор. Пинска в центральный антирелигиозный музей, имеющие ценное значение для Белоруссии, будут возвращены Академии Наук БССР.*

*По наведенной справке отделом пропаганды и агитации ЦК КП/б/Б Белоруссии Академия наук до сего времени никаких книг от центрального антирелигиозного музея не получила.*

*Отдел пропаганды и агитации ЦК КП/б/Б просит сообщить – какие книги отобраны Вами, в каком количестве и когда будут присланы в адрес Академии Наук БССР.*

*Секретарь ЦК КП/б/Б Белоруссии по пропаганде – Малин”*

У адказе на гэты ліст значылася:

*“Центральный совет Воинствующих Безбожников*

*Центральный Антирелигиозный музей*

*28 марта 1941 г.*

*Секретарю ЦК КП/б/Б Белоруссии по пропаганде Тов. Малину*

*Центральный Антирелигиозный музей сообщает, что отбор книг из Пинской коллекции музеем еще не закончен. По плану – окончание работы намечено на 2 квартал т. года.*

*Разобранные книги, за редким исключением, имеют чисто религиозный характер, при чем, как правило, эти книги на латинском языке.*

*Ц.А.М. согласно указаний т. Ярославского точно выполнит свое обязательство и все книги, имеющие значение для Белоруссии возвратит обратно.*

*Мы просим сообщить нам в какой адрес возвратить книги – обратно в Пинск или же в Минск, в адрес Академии наук.*

*Директор Центрального Антирелигиозного Музея: Кузьмин”*

Апошнім дакументам, які адлюстроўвае спробу беларускага боку вярнуць сабе кніжную калекцыю, быў ліст сакратара кампартыі БССР Гарбунова:

*“Директору Центрального антирелигиозного музея тов. Кузьмину*

*Отдел пропаганды и Агитации ЦК КП(б)Б просит направить книги из Пинской коллекции, имеющие отношение к Белоруссии, в адрес Академии Наук БССР, гор. Минск.*

*Секретарь ЦК КП(б)Б Белоруссии (Горбунов)”*

На гэтым перапіска заканчваецца. Як вядома, праз некалькі месяцаў пасля даты апошніх лістоў адбылося нападзенне Германіі на СССР, распачаліся ваенныя дзеянні, і справа па дадзеным пытанні перастала быць актуальнай. Таксама адзначым, што плёну па вяртанні бібліятэкі ў Беларусь намаганні зацікаўленых асоб не мелі.

*Пры падрыхтоўцы выкарыстаны дакументы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.*

# Выздороветь вопреки

**История человека, который, вопреки неизлечимости, исцелился от алкогольной зависимости.**

Есть в жизни вещи, поясняя которые так или иначе упираешься в парадокс. Одним из таких является вопрос "Почему я предпочёл трезвости, пьянство". Не буду рассказывать детали своего падения, ведь обычно развитие и течение алкоголизма у всех похожи, а вот развязка – нет. Поделюсь своими выводами, опираясь на длительный опыт самоанализа, практикуя программу "12 шагов" и оказания помощи другим алкоголикам.

Хотя мой отец умер в 51 год от последствий алкогольной зависимости, в моём раннем детстве он практически не употреблял. Первый раз, по его словам, он выпил в тридцатилетнем возрасте. Всю свою жизнь он был активным физкультурником и видным общественным деятелем в определённых кругах. Мать на протяжении своей трудовой деятельности занимала руководящие посты в области культуры и не употребляла вовсе. Алкоголь в нашем доме был не часто, но когда ОН появлялся, это сопровождалось весёлой атмосферой. Я не случайно определил алкоголь как одушевлённое существо, ниже я дам этому объяснение в своём рассказе.

С самого первого употребления я понял, что такое алкогольная эйфория. Осознание того, что в 14 лет я повзрослел, будоражило моё сознание и придавало мне значимости в собственных глазах ещё долго. По какой-то причине мне гораздо важнее было казаться взрослым, нежели быть им.

Я не скажу, что у меня на протяжении жизни были проблемы с алкоголем, включая два последние года употребления. Я не думаю, что у алкоголика вообще проблема с алкоголем. Они появляются от того, что наступают последствия от употребления. Поэтому, скорее, моя проблема была в отсутствии желания жить трезво, нежели в алкоголе.

По какой-то причине мне невыносимо скучно было в трезвости. И скучно не потому, что заняться было не чем, а потому, что тосковал по состоянию эйфории, когда чувствуешь себя более важным и счастливым. Ведь так хочется признания! И для этого с детства есть простой способ: не прилагая никаких усилий, выпил – и сразу почувствовал, как градус самоуверенности поднялся. Алкоголь легко даёт это признание, пусть и только в собственном воображении. О последствиях легкодоступного кайфа на тот момент особо не задумываешься.

Алкоголь – это хитрый, властный, сбивающий с толку, и без помощи с ним не совладать. В алкоголизме человек быстро теряет, что в его жизни реально, а что ложно. Я быстро привык к той субличности, которая принимает решение выпить "первую рюмку", и в этом процессе я как личность не принимал участия. Над этим процессом я – бессилен, как бы я ни старался. Но так было не всегда. Просто пока ещё возможно было избавиться от потенциального алкоголизма, я этого делать не хотел, так как алкоголь не доставлял мне проблем, а когда появились проблемы от него, бороться с этим было уже поздно: выработалось то самое "алкогольное мышление", которое по сути и делает меня алкоголиком.

Когда постепенно толерантность к алкоголю куда-то улетучилась, а частота алкогольных запоев увеличилась, появился интерес к моей персоне со стороны правоохранительных органов. При этом никто из них не ждал от меня каких-то социально опасных поступков. Нелепо их ждать от человека, чьи амбиции сводятся к банальной активности в поисках алкоголя.

Моя жизнь за два года после тридцатитрёхлетнего рубежа превратилась в то, что называется "жалкое существование". Трудно передать словами тот стыд и безнадёжность, которые я испытывал в последние два года употребления. Когда внезапно спадает пелена иллюзии, которая когда-то делала меня высокомерным, а реальность становиться такой невыносимой, что хочется напиться раз и навсегда, чтобы никогда её не ощущать.

**Не было бы счастья, да несчастье помогло**

В 33 года я познакомился с "Анонимными алкоголиками" (далее АА) и программой "12 шагов". Правда, мне потребовалось ещё два года усиленного пития, чтобы, как говорится, "допиться до дна" и капитулировать перед алкоголем. Но это того стоило.

Когда в тридцать пять я вернулся в АА, у меня уже не стоял вопрос: обращаться мне к профессионалам за помощью или нет, посещать собрания АА или нет, проходить программу "12 шагов" или нет. Я был настолько напуган и обессилен, что страх вернуться к старому образу жизни придавал мне самый лучший стимул для ежедневной работы над собой.

Я оказался в очень доверительной атмосфере. Мне сразу предложили помощь. На меня произвела неизгладимое впечатление искренность, с которой люди говорили о вещах, о которых я даже боялся подумать. Но само по себе это не смогло бы меня удержать в трезвости надолго. Основное, что со мной произошло на первом году трезвости, – это ощущение свободы от алкоголя, которое стало следствием общения с другими алкоголиками, и бескорыстное желание быть полезным. Это было не ощутимо в тот момент, я осознал это гораздо позже, когда помощь другим алкоголикам стала обыденным для меня делом.

В программе АА есть несколько этапов выздоровления, один из которых – "моральная инвентаризация". Это способ разобраться в себе и в причинно-следственной связи, почему вопреки здравому смыслу я как активный представитель своего поколения выбирал алкоголь вместо того, чтобы наслаждаться трезвой жизнью здесь и сейчас.

Вывод оказался прост. Алкоголь – это суррогат радости и когда-то в детстве я узнал, как можно, не прикладывая особых усилий, иметь эту радость в достаточном количестве в любое время.

**Выход там, где и вход**

Тяга к чувственным наслаждениям привела меня к тому, что у меня абсолютно потерялась мотивация к самореализации. При всём при том, что природа одарила меня крепким здоровьем и хорошими способностями, алкоголь отбил у меня всякое желание к саморазвитию. И ни медики, ни религия не могли восстановить во мне это желание. Как вообще можно вдруг захотеть и обрести желание получить то, от чего ты бежал всю свою сознательную жизнь? Человеческих "хотелок" здесь недостаточно. Не помогают в этом и полумеры в виде временных увлечений, занятий или работ. Они не могут заменить алкоголь в долгосрочной перспективе. Принятие решения выпить "первую рюмку" приходит между занятиями и внезапно. И вопрос, выпьешь ты или нет, – это вопрос времени…

Невозможно вылечить алкоголизм. У алкоголика никогда не появится безопасной дозы алкоголя. Но можно изменить "алкогольное мышление", которое принимает решение выпить "первую рюмку". Чтобы освободится от алкоголизма, должен появиться некий новый образ жизни, который будет ежедневно тебя увлекать. И такой образ жизни я обрёл благодаря программе "12 шагов" "Анонимных алкоголиков".

Не надо думать, что "12 шагов" – это очередной тренинг, пройдя который, ты обретёшь конкретный результат. Встреча с АА не привела меня к состоянию трезвости "навсегда". Она привела меня к ситуации, проходя через которую, я обретаю трезвость сегодня. Здесь необходимо увлечься процессом. И другого выхода нет.

*С благодарностью к Сообществу АА, Саша*

# Как спастись от алкоголизма?




**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**

• Единственное условие для членства – это желание бросить пить.

• Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.

• Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.

• Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.

• Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Где нас найти?**

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, здание костёла.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костёл Св. Казимира.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: воскресенье – 19.00
+375 (29) 737-47-64

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

# Пра некаторыя асаблівасці націску ў формах назоўнікаў і прыметнікаў

**У дзясятым і адзінаццатым нумарах “Каталіцкага Весніка” за мінулы год мы разгледзелі найбольш частотныя выпадкі парушэння акцэнталагічных нормаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы, гэта значыць, прааналізавалі тыповыя памылкі ў пастаноўцы націску. Узнятая праблема зацікавіла многіх чытачоў газеты, неабыякавых да беларускага слова.**

■ Юрась Бабіч – *кандыдат філалагічных навук*

**За гэты час мы атрымалі досыць шмат канкрэтных пытанняў наконт правільнасці пастаноўкі націску ў словаформах розных часцін мовы. У прыватнасці, чытачка “Каталіцкага весніка” Алена пытаецца: “Як павінна быць у множным ліку:** *сваты ці сваты, дзядзькі ці дзядзькі, кумы ці кумы?”* ***Іншая чытачка – Кацярына – цікавіцца правільным націскам у формах прыметнікаў: “Кажуць, напрыклад,*** *завадскі нумар і заводскі нумар. Або шкляныя дзверы і шкляныя дзверы. Ці тут абодва варыянты правільныя?”*

*Таму сёння, адказваючы на пытанні нашых шаноўных чытачоў, разгледзім больш падрабязна асноўныя асаблівасці пастаноўкі націску ў асобных формах назоўнікаў і прыметнікаў.*

### Націск у назоўніках

**Асаблівай увагі патрабуюць словаформы з рухомым націскам. Так, у некаторых назоўніках націск можа пераходзіць з аднаго каранёвага складу на іншы. Напрыклад,** *назоўнік возера ў адзіночным ліку мае націск на першым каранёвым складзе, а ў множным – на другім: азёры. У спалучэнні з лічэбнікамі два, тры, чатыры лексема возера мае ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку націск на тым самым каранёвым складзе, што і ў адзіночным ліку: два возеры, тры возеры, чатыры возеры.*

*У шэрагу назоўнікаў націск пераходзіць з кораня на канчатак. Тут можна вылучыць некалькі падгруп. Першую складаюць назоўнікі мужчынскага роду, якія ў адзіночным ліку маюць націск на корані, а ў множным – на канчатку: брат – браты, кум – кумы, рот – раты, вечар – вечары, дзядзька – дзядзькі, хутар – хутары і інш.*

***У другую падгрупу ўваходзяць аднаскладовыя лексемы мужчынскага роду, якія ў адзіночным ліку маюць націск на корані (за выключэннем меснага склону), а ў месным склоне адзіночнага і ва ўсіх ускосных склонах множнага ліку – на канчатку:*** *бой – у баі – баі, вір – у віры – віры, гай – у гаі – гаі, край – у краі – краі, рой – у раі – раі і інш.*

***Трэцюю падгрупу складаюць назоўнікі мужчынскага роду, якія ў назоўным (у асобных выпадках – у вінавальным) склоне адзіночнага ліку маюць націск на корані, а ва ўсіх іншых склонах адзіночнага, а таксама ў множным ліку – націск на канчатку:*** *ключ – ключа – ключы, цвік – цвіка – цвікі, кавун – кавуна – кавуны, нож – нажа – нажы і інш.*

***Да чацвёртай падгрупы належаць назоўнікі мужчынскага і жаночага роду, якія ў адзіночным ліку і ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку маюць націск на корані, а ва ўсіх іншых склонах множнага ліку – на канчатку:*** *вус – вуса – вусы, – вусоў, зуб – зуба – зубы – зубоў, ноч – ночы – ночы – начэй.*

*У значнай групе назоўнікаў націск пераходзіць з канчатка на корань. У прыватнасці, у назоўніках жаночага роду, якія маюць у адзіночным ліку націск на канчатку, а ў множным – на корані: аса – восы, асака – асокі, барада – бароды, вярба – вербы, душа – душы, лаза – лозы і інш. Націск можа пераходзіць з канчатка на корань і ў невялікай групе назоўнікаў ніякага роду. У адзіночным ліку такія назоўнікі маюць націск на канчатку, а ў множным – на корані: акно – вокны, брыво – бровы, валакно – валокны, дупло – дуплы, крыло – крылы, сядло – сёдлы і інш. Названыя назоўнікі ў спалучэнні з лічэбнікамі два, тры, чатыры ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку маюць націск на канчатку: два акны, тры ці чатыры дуплы.*

### Націск у прыметніках

**Прыметнікі характарызуюцца нерухомым націскам. Гэта значыць, месца націску прыметнікаў не змяняецца ў залежнасці ад змены іх граматычных формаў. Варыянтнасць уласцівая толькі асобным лексемам. У адных выпадках яна абумоўленая сэнсавымі адрозненнямі прыметнікаў, а ў іншых – узаемадзеяннем сістэмы націску літаратурнай мовы з акцэнталагічнымі асаблівасцямі мясцовых гаворак, што на пэўным этапе развіцця мовы паўплывала на замацаванне адпаведных акцэнтных формаў.**

**У прыметніках з суфіксамі -ав, -яв, -ляв, -ев націск звычайна знаходзіцца на ўтваральнай аснове:** *байкавы, болевы, вонкавы, вусцевы, лекавы, лічбавы, яблыневы, макавы і г.д. Параўнальна невялікую групу складаюць прыметнікі на* **-ав, -яв з націскам на канчатку:** *агнявы, берагавы, баравы, гасцявы, гукавы, нулявы, харавы, яравы* ***і г.д. У даволі вялікай групе адыменных прыметнікаў з суфіксам*** **-н націск знаходзіцца на канчатку:** *вушны, дзвярны, нумарны, чарапны, адкупны, нажыўны, нацяжны, намыўны* ***і г.д.***

***У прыметніках, утвораных пры дапамозе суфіксаў*** **-ават (-яват), -авіт, -іт, -аст (-яст), -част, націск заўсёды (!) знаходзіцца на гэтых суфіксах:** *вуглаваты, сухаваты, чубаты, віхрасты, дуплясты і інш. У лексемах, утвораных пры дапамозе суфіксаў* **-ан (-ян), -мян, націск пераважна падае на суфікс:** *ваўняны, гліняны, цагляны, духмяны, палатняны і інш. Але ў некаторых словах з названымі суфіксамі націск паводле традыцыі захоўваецца на канчатку: дрыўяны, земляны, крывяны, нутраны, скураны, шкляны* ***і інш.***

***У большасці прыметнікаў, утвораных пры дапамозе суфікса*** **-іст (-ыст), націск на суфіксе:** *агністы, валакністы, ганарысты, лясісты, плячысты і інш. Але разам з тым у даволі значнай групе слоў са згаданым суфіксам націск можа знаходзіцца і на ўтваральнай аснове: гліністы, каляіністы, порысты, сасудзісты, учэпісты і інш.*

*Практыка апошніх гадоў сведчыць, што ёсць пэўная група прыметнікаў, у якіх найбольш часта дапускаюцца памылкі ў пастаноўцы націску. Павінна быць: малы, стары, слыхавы, аднаразовы, аўсяны, біржавы, аптовы, драцяны, заводскі, уразлівы, ільняны, ценявы, бляшаны, валавы, кухарскі, хвалісты, слабы, цьмяны, абутковы, каменны, мізэрны, адкупны, брыдкі, пачварны, пахмурны, ядраны.*

*Спадзяёмся, што разгледжаныя вышэй прыклады паспрыяюць правільнаму выкарыстанню ў штодзённай моўнай практыцы асобных форм назоўнікаў і прыметнікаў, дзе традыцыйна назіраюцца праблемы з пастаноўкай націску. У наступным нумары “Каталіцкага весніка” мы прааналізуем найбольш пашыраныя акцэнталагічныя памылкі сярод словаформаў іншых часцін мовы.*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Гертруда Блышко** *(Глыбокае)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Віктар Муляронак** *(Глыбокае)*, **Ядвіга Вярцінская** *(Жабінка)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Алена Емельянава** *(Дунілавічы)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Новалукомль)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Дулінская Т.І.** *(Вазоўнікі)*, **Грэцкая С.І.** *(Вазоўнікі)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Таццяна Шук** *(Лявонпаль)*, **Данута Міхайлоўская** *(Мураваная Ашмянка)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Яўген Папроцкі** *(Ляхавічы)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Тэрэза Вароновіч** *(Докшыцы)*, **Ніна Салаўёва** *(Дворнае Сяло)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Станкевіч Я.І.** *(Віцебск)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **Ірэна Крывель (Опса), Марыя Новік** *(Зорка)*, **Баляслава Немыцкая** *(Паставы)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Даната Пачкоўская** *(Савуткі)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Ганна і Антаніна Дарашкевіч** *(Янковічы)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Станіслава Кавалёнак** *(Прусы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Галіна Сіманёнак** *(Паставы)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Марыя Гасюль** *(Ахрэмаўцы)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **вернікі з Задарожжа, Людміла Падалянка** *(Полацк)*, **парафіяне з Дуброўна, Марыя Рачыцкая** *(Якубова)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Марына Гуцалюк** *(Паставы)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ядвіга Шымковіч** *(Мядзел)*, **Ніна Голенькая** *(Віцебск)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Данута Ільіч** *(Яцкавічы)*, **Валянціна Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Яніна Вяршэль** *(Вігушкі)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Крысціна Цярэнцьева** *(Браслаў)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб’е)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Данута Мігун** *(Крэйванцы)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Аліна Латыш** *(Паставы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***“Каталіцкага Весніка”***

# Путь миссионера: интервью с отцом Степаном Цергелем

**Отец-вербист Степан Цергель родился в Восточной Сибири, проходил миссионерскую практику в Папуа-Новой Гвинее, а сейчас он служит в санктуарии Божьей Матери Фатимской в Барановичах. Про свой интересный духовный и миссионерский путь священник рассказал сегодня "Каталіцкаму Веснiку".**



**– Вы родились в России. Интересно подробнее узнать про католическую общину Вашего региона.**

– Я родился и вырос в городе Иркутске. Это областной центр в Восточной Сибири, недалеко от озера Байкал, с населением более 600 тысяч жителей. Одновременно это и центр самой большой (по территории) католической епархии в мире, которая охватывает почти всю Россию на восток от Уральских гор.

В историческом центре Иркутска находится католический храм Успения Пресвятой Богородицы, построенный в неоготическом стиле в конце XIX века. К сожалению, сейчас это здание принадлежит областной филармонии, а католическая община лишь арендует небольшое помещение под часовню.

Поэтому в 2000 году был построен и освящен кафедральный собор Непорочного Сердца Божьей Матери – красивое и необычное для Сибири здание в стиле конструктивизма. Этот храм стал для меня родным, потому что туда я ходил на занятия по катехизации. Там я принял первое причастие, был министрантом и там же я был рукоположен в дьяконы в 2019 году. Также я считаю его родным из-за людей, которые составляют приходскую общину. По сравнению с приходами в Беларуси их не так много. Насколько я помню, по воскресеньям на две святые Мессы приходило около 150 человек. Зато эту приходскую общину, где большинство людей знает друг друга не только по имени, составляют представители самых разных народов и национальностей. Там есть русские, есть те, кто родился в разных частях Советского Союза и СНГ, есть потомки ссыльных поляков, литовцев и немцев, встречаются представители коренных народов Сибири, а также иностранные студенты. Поэтому я улыбался, когда слышал от сверстников или знакомых, что католики – это только поляки.

**–А как Вы пришли к Богу?**

– Мой папа родом с Западной Украины, но в конце 80-ых годов прошлого века служил в армии в Сибири, где познакомился с моей мамой и остался. Он родом из католической семьи, поэтому и меня крестили в католическом храме во Львове, когда мои родители поехали туда в отпуск, а мне было чуть больше года. Потом родители вернулись в Иркутск, где католический храм был закрыт. Иногда они рассказывали нам с сестрой что-то про Бога, но я не помню, чтобы мы вместе молились. Зато были вечера, когда мой папа открывал Библию и рассказывал нам с сестрой то, что там написано. Спустя много лет я узнал, что та книга была на украинском языке, и папа привёз её со своей родины. Поэтому он не просто читал Библию, а сразу же переводил на русский язык, чтобы нам было понятно.

Спустя много лет, летом 2002 года, к нам в гости впервые приехала папина мама. И один из первых её вопросов был: "Есть ли в Иркутске католический храм?" Я достал карту, стал искать. И оказалось, что их целых два. Я показал бабушке, она выбрала тот, что поближе (примерно в 2-3 км от нашего дома), и попросила на следующий день пойти вместе с ней. Так я и моя сестра попали в католический храм, где нам очень понравилось. Сперва мы ходили в храм вместе с бабушкой по воскресеньям и в будние дни. По пути она нам рассказывала о Боге и учила молиться.

Закончилось лето, и бабушка Галя вернулась в Украину. А мы с сестрой продолжили ходить в храм и стали посещать занятия по катехизации. Спустя несколько месяцев один из священников предложил мне стать министрантом. Сперва я думал, боялся, но решил попробовать. Как оказалось, всё не так страшно, а наоборот, интересно. Как министрант я мог помогать священникам во время богослужений и узнавать ещё больше про веру и Католическую Церковь. Тогда же я стал знакомиться и больше общаться со священниками.

**– Как Вы попали к отцам-вербистам?**

– Первых вербистов я встретил в Иркутске в 2002 году. Отец Иосиф Венцлавик тогда работал в курии, а отец Владимир Сек отвечал в Иркутской епархии за работу с молодежью. Именно он спустя два года стал настоятелем в Иркутском приходе. Тогда же в Иркутск приехали ещё двое вербистов из Польши и Индонезии. Когда я учился в 10 классе, стал больше задумываться о своём будущем. Глядя на священников, на примеры их служения и жизни, я тоже захотел попробовать, видя сколько они молятся, а также сколько всего доброго, хорошего они делают. После долгих размышлений, сбора информации, молитв и разговоров с разными священниками я выбрал Общество Слова Божьего, чему очень рад и сегодня.

**– Вы два года провели на миссиях в Папуа-Новой Гвинее. Когда это было?**

– После учёбы в Католической высшей духовной семинарии в Санкт-Петербурге мне предложили поехать на миссионерскую практику к нашим собратьям в Папуа-Новую Гвинею. Туда я отправился в сентябре 2016 года, а вернулся в середине лета 2018 года.

**– Какие самые яркие воспоминания с этого служения?**

– Это время было полно разных встреч и событий. Сложно выделить лишь одно из них. Сложно рассказать про те два года жизни в совершенно другом мире, среди других культур и языков. Однажды я рассказывал об этом журналистке журнала "Диалог" больше пяти часов. Тогда в декабре 2019 года вышла статья "На острове райских птиц".



И это лишь малая доля историй и событий из моей жизни.

За время миссионерской практики я успел пожить и поучиться в городе Маданг, на севере центральной части острова, где в 2019 году сразу после окончания курса английского и местного языка TokPigin (язык птиц) стал переводчиком и консультантом экспедиции российских учёных по следам российского исследователя Австралии и Океании Н. Н. Миклухо-Маклая.

Но гораздо больше приятных и интересных моментов было, когда я жил в небольшой деревне Дирима в горах и помогал отцу-настоятелю нести служение в трёх приходах и двадцати часовнях, в большинстве из которых можно было добраться только пешком.

**– Что там впечатлило больше всего?**

– Больше всего меня впечатлили люди, их культура и языки. Сперва всё казалось очень диким и примитивным, но со временем я стал всё больше узнавать и понимать. Сложно передать словами, насколько они разнообразные и непредсказуемые. С одной стороны, они живут в довольно примитивных бытовых условиях, но для них очень важны семья и отношения с другими людьми.

А ещё я удивлялся их образу жизни: они никуда не торопятся, не спешат и не опаздывают. Как не зря шутят миссионеры: "у европейцев есть часы, а у местных жителей – есть время". У них действительно есть время для родных и близких, для семьи и для молитвы. А какие-то трудности и проблемы они решают сообща, всем племенем (одной большой семьёй).



**– Расскажите подробнее про веру, традиции, культуру тех людей, с которыми Вам приходилось работать в Новой Гвинее?**

– Принято говорить, что в этой стране живёт около 8-9 миллионов человек. Точно этого никто не смог проверить или подсчитать, потому что у большинства людей нет никаких документов вроде свидетельства о рождении или паспортов. Они говорят на более чем 800 языках и диалектах, которые сильно отличаются между собой. Это обусловлено историческими событиями и сильной обособленностью племён. Для папуасов очень сильными были разделения на "своих" и "чужих". Все эти племена отличаются не только языками, но и культурой, и стилем жизни, и своими верованиями.

В конце XIX века Миклухо-Маклай отправился на Новую Гвинею потому, что это была загадочная и неизвестная страна. Мне кажется, что такой же она остаётся и сегодня. Это молодое по современным меркам государство получило свою независимость лишь в 1975 году. Более 90% населения считают себя христианами, но у них есть немало языческих традиций и верований. Как говорят папуасы, "это у вас в Европе всё белое или чёрное, а у нас – всё серое, перемешанное".

**– Как и когда Вы попали в Беларусь?**

– Впервые я попал в Беларусь в 2007 году. Тут, в Барановичах, проходил один из первых этапов моей формации – постулат. Это время более близкого знакомства с монашеской жизнью. Потом во время учебы в Петербургской семинарии я неоднократно приезжал в Беларусь на практику. Осенью 2019 года уже как дьякон я переехал жить и служить в вашей стране. Чтобы лучше понять местные реалии и особенности в душпастырской работе один год я учился в Высшей духовной семинарии в Пинске. После чего меня направили служить в город Барановичи.

**– Что Вам больше всего нравится в белорусах, Беларуси?**

– В белорусах мне нравится ваша доброта и гостеприимство. Что тут люди ещё не так сильно суетливы, как в России или западных странах. Мне нравится, что люди знают и стараются сохранять свои традиции и веру, которые передаются из поколения в поколение. К сожалению, в России это встречается крайне редко. А в Беларуси мне нравится красота природы, а также большое количество сохранившихся старых храмов и часовен, в которых собираются люди.

**– Что (кто) Вас вдохновляет как миссионера?**

– В первую очередь меня вдохновляет призыв Иисуса "идите по всему миру и проповедуйте Евангелие" (Мк 16,15), который остаётся актуальным и в наше время.

Если же говорить о личностях, то это апостол Павел – с его самоотверженным служением Церкви и его умение говорить с разными людьми (по происхождению, национальности, вере). И многие примеры моих собратьев-вербистов, которые служили и служат в разных уголках земли, стараясь жить среди людей и для людей, несмотря на наши различия и многообразие. Одни из них отдали свои жизни за веру, другие десятилетиями служат в "чужих" странах, становясь "своими" для местных жителей.

Как говорил св. Арнольд Янссен, "пусть Святой Триединый Бог живёт в наших сердцах и в сердцах всех людей!"

*Подготовила*
***Ирина Родевич***



# “Кожны чалавек – святыня Духа Святога”. Інтэрв’ю з манахіняй і сядзелкай Марыяй Серафінай Мацулевіч

**У сённяшнім нумары сястра Марыя Серафіна Мацулевіч з Віцебскай парафіі Езуса Міласэрнага расказала “Каталіцкаму Весніку” пра сваю працу ў сацыяльнай службе ў якасці сядзелкі.**

**– Сястра, раскажыце крыху пра сябе. Адкуль Вы родам?**

– Родам я з Браслаўшчыны – мясціны Божага Провіду і Маці Божай Валадаркі азёраў. Божага Провіду таму, што ў гербе горада знаходзіцца вока Божага Провіду. Божы Провід са мной з дзяцінства і па сённяшні дзень. Наш заснавальнік кангрэгацыі сясцёр-служабнічак Найсвяцейшай Панны Марыі Беззаганнай Эдмунд Баяноўскі наказваў, каб у кожным месцы, дзе працуюць манахіні, таксама было змешчана вока Божага Провіду.

**– Як Вы апынуліся ў кляштары?**

– У кляштары я апынулася дзякуючы майму дзядулю. Калі ён быў яшчэ малы і хадзіў у школу, хацеў стаць святаром, ужо нават быў запісаны ў Друйскую семінарыю. Але пазней здарыўся няшчасны выпадак: ён трапіў пад цягнік і стаў інвалідам. Праз свой стан ён ужо не мог стаць святаром. Некаторыя яго раны не загаіліся аж да смерці, пазней утварылася гангрэна і ён памёр. Ён заўсёды расказваў нам пра Бога, вучыў маліцца, чытаў Біблію.

Калі нарадзілася мая мама, дзядуля пытаўся ў яе, ці хоча яна пайсці ў кляштар. Яна ж адказала “не”. Я памятаю, што ўсё сваё жыццё ён маліўся аб пакліканні з нашай сям’і. Думаю, што яго малітва прынесла свой плён і Бог яго выслухаў. Падчас навучання ў Віцебску я пазнаёмілася з сёстрамі-служабнічкамі і неўзабаве пайшла ў кляштар.

**– Ці звязана нейкім чынам Ваша праца сядзелкі з харызматам Вашага ордэна?**

– Так, безумоўна. Калі наш заснавальнік Эдмунд Баяноўскі ствараў наш ордэн, ён бачыў шмат дзяцей, якія або не маюць бацькоў, або не маюць дастатковай апекі. Бачыў таксама шмат старэйшых хворых, якім няма каму дапамагчы. У 1850 годзе быў створаны наш ордэн. У той час сацыяльная сфера не была так развітая, як сёння. Таму ён засноўваў невялікія супольнасці з трох дзяўчат. Адна павінна была займацца дзецьмі, другая наведваць хворых, а трэцяя працавала на полі, каб супольнасць магла функцыянаваць. Штотыдзень абавязкі кожнай змяняліся па чарзе.

Наш заснавальнік думаў таксама пра будучыню. У тыя часы большасць ордэнаў былі закрытыя. Яны ўтрымліваліся толькі з пэўных ахвяраванняў дабрадзеяў. Эдмунд Бяноўскі ж думаў, каб супольнасць была незалежнай у фінансавым плане. Сёння ў нашым кляштары жывуць тры сястры, якія самастойна ўтрымліваюць сябе. Нашы сёстры займаюцца з дзецьмі, праводзячы катэхезу, працуюць з хворымі і дапамагаюць ім.

**– А з кім Вы зараз працуеце?**

– Я таксама праводжу катэхезы для дзяцей пры парафіі. Калі ж казаць пра працу сядзелкі, то цяпер я апякуюся 86-гадовай жанчынай, якая пасля шпіталю перастала хадзіць. Зараз можа хіба толькі сесці сама. У яе пакуль няма першай групы інваліднасці, але яна зусім не бачыць, патрабуе поўнай апекі. Яе дзеці не могуць цалкам ёй дапамагчы таму, што ходзяць на працу. Мая апека палягае на тым, каб чалавек быў дагледжаны і меў годныя ўмовы.

**– Ці быў нейкі вопыт у гэтай сферы да таго, як Вы сталі сядзелкай?**

– Мая мама працуе на Браслаўшчыне сацыяльным работнікам. Калі я хадзіла ў школу, то дапамагала ёй і мела магчымасць больш блізка пазнаёміцца з гэтай працай і яе спецыфікай. Калі наш дзядуля хварэў, ён меў першую групу інваліднасці, мы таксама яму дапамагалі. У кляштары я апекавалася старэйшымі сёстрамі. Мяне заўсёды выхоўвалі так, каб сапраўды бачыць патрэбы чалавека. Дарэчы, мой брат таксама працуе сацыяльным работнікам, таму гэта ў нас сямейнае.

**– Як у сваёй працы Вы сведчыце пра Бога?**

– На працу я хаджу ў манаскім адзенні. Таму тыя, да каго я прыходжу, бачаць, кім я з’яўляюся, задаюць пэўныя пытанні. Некаторыя людзі больш давяраюць і адкрываюцца мне як манахіні, распавядаюць пра сваё духоўнае жыццё, пра нешта асабістае. Мы размаўляем пра Бога. Калі я абяцаю людзям, што памалюся за іх, некаторыя пачынаюць плакаць. Бо, можа, яны не зусім блізкія да Бога, але,



> **“калі людзі чуюць, што хтосьці за іх памоліцца, то гэта іх вельмі кранае”**

Часам са сваякамі ўдаецца пагаварыць пра сакрамант намашчэння хворых. Большасць людзей, да якіх я прыходзіла, праваслаўнага веравызнання. Нядаўна мы віншавалі адно аднаго са святам Вялікадня. І гэта вельмі радуе!

**– Што найбольш дапамагае Вам у працы?**

– У нашым ордэне мы стараемся наследаваць Езуса Хрыста, які сапраўды служыў людзям, а таксама Маці Божую – Служабніцу Пана. Па іх прыкладзе мы імкнёмся служыць тым асобам, з якімі спатыкаемся і працуем. Кожны чалавек – гэта святыня Духа Святога. Кожная асоба патрабуе павагі. Мы заўсёды памятаем пра гэта. Таксама вельмі дапамагае малітва, якая штодня пераплятаецца з той працай, якую мы робім.

*Пра працу манахіні ў “Хуткай дапамозе” чытайце, адсканаваўшы гэты QR-код:*



*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

# Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у нядзелю Добрага пастыра наведаў парафію на Віцебшчыне

**8 мая, у нядзелю Добрага пастыра, арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч наведаў парафію Маці Божай Каралевы ў мястэчку Порплішча (Докшыцкі дэканат, Віцебская дыяцэзія), дзе ўзначаліў цэлебрацыю адпустовай святой Імшы.**

Напачатку заслужаны іерарх падзякаваў пробашчу мясцовай парафіі ксяндзу Юрыю Бараўнёву за запрашэнне.

Арцыпастыр узгадаў, што гэта не першы яго візіт у Порплішча. Яшчэ будучы студэнтам Ленінградскага політэхнічнага інстытута, ён прыязджаў сюды са сваім духоўным кіраўніком ксяндзом Пятром Барташэвічам, які ў 1943–1948 гадах служыў у гэтай парафіі і адкуль быў сасланы ў Сібір.

Іерарх адзначыў, што гэты яго візіт, ужо як біскупа, з’яўляецца таксама знакам падзякі святару, каторы дапамог яму распазнаць пакліканне да святарства.

У гаміліі арцыбіскуп Кандрусевіч падкрэсліў, што каралеўская годнасць Марыі мае біблійнае абгрунтаванне ў Апакаліпсісе святога апостала Яна, дзе Марыя прадстаўлена як апранутая ў сонца жанчына, а пад Яе нагамі месяц. Сонца – гэта сімвал перамогі. Яно з’яўляецца сімвалам дня і святла, а месяц – сімвалам ночы і цемры. Таму апранутая ў сонца Марыя, пад нагамі Якой месяц, паводле арцыбіскупа, з’яўляецца Каралевай-пераможцай.



Арцыпастыр нагадаў, што касцельная традыцыя называе Марыю другой Евай – як супрацьпастаўленне нашай прамаці Еве.

“Калі Ева ў раі не паслухала Бога, што стала прычынай першароднага граху, то Марыя сваёй паслухмянасцю зрабіла магчымым цуд Богаўцелаўлення з мэтай выправіць першародны грэх. З дрэва Крыжа Езус у асобе святога апостала Яна даў нам Марыю як нашую духоўную Маці, Каторая клапоціцца пра нас. Аднак у той жа час Яна мае і пэўныя чаканні ад нас.





Чаго Яна чакае? Сталай любові да Бога і бліжняга, а таксама адказнасці за сям’ю, за парафію і за лёс народа.

Любоў да Марыі павінна весці да любові да Бога, што мусіць праяўляцца ў вернасці Яму. Таму Божы закон павінен стаць зместам нашай веры. Мы мусім жыць згодна з правілам: так – так і не – не. Белае павінна быць белым, а чорнае – чорным”, – падкрэсліў іерарх, заахвоціўшы вернікаў жыць згодна з Божым законам, абараняць непарушнасць сям’і і жыццё – ад зачацця да натуральнай смерці, захоўваць хрысціянскія традыцыі, адстойваць мір, згоду і справядлівасць.

*Catholic.by, тэкст*
***Леанід Юрык,** фота*

# "Маёўка" для моладзі адбылася ў Удзеле

**7 мая ў аг. Удзела прайшла маёўка для моладзі. Пасля вымушанага доўгага перапынку з прычыны пандэміі.**

Душпастырства моладзі Віцебскай дыяцэзіі нарэшце зноў сабрала маладых людзей з розных парафій на маёўку, каб разам памаліцца, адпачываць, узбагаціць свае веды і ўдасканальваць узаемаадносіны ў супольнасці. Моладзь гасцінна прымалі айцы-францішкане. Ужо з пятнаццатай гадзіны маладыя вернікі з Варапаева, Дунілавіч, Мосара, Удзела, Глыбокага, Лучая, Полацка і Наваполацка пачалі збірацца на пляцоўцы ля кляштара, дзе чакала клапатліва падрыхтаваная зона для адпачынку.

Наваколле напаўнялася смехам, размовамі, радасцю доўгачаканых сустрэчаў даўніх сяброў. А сабралася гэтым разам каля дзевяноста чалавек!

Распачалі сустрэчу, вядома, з малітвы. А 16-й гадзіне кс. Алег Хмылко цэлебраваў св. Імшу, падчас якой кс. Яўген Шымановіч прамовіў да моладзі казанне пра тое, што кожны з нас пакліканы да ўдзелу ў выратаванні свету разам з Марыяй, падкрэсліўшы асаблівую ролю Сэрца Марыі ў нашым жыцці. Гэтая тэма прагучала асабліва актуальна, бо май якраз прысвечаны Марыі, да таго ж сустрэча адбывалася аккурат у першую суботу месяца. Адразу пасля Імшы кс. Алег звярнуўся да вернікаў з канферэнцыяй "Шлях, выпрабаванне, вера".

Узбагаціўшыся духоўна, моладзь перайшла да забаўляльнай часткі: танцы, спевы, гульні на свежым паветры ў гэты сонечны дзень абудзілі невялікае мястэчка Удзела. Інтэграцыйныя танцы аб'ядналі ў вялікае кола ўсіх, незалежна ад узросту і парафіі, далі цудоўную магчымасць для новых знаёмстваў.

А добра натанцаваўшыся, трэба і добра падсілкавацца: калбаскі, запечаныя на вогнішчы, і іншыя прысмакі, падрыхтаваныя арганізатарамі, прыйшліся даспадобы нават самым малодшым удзельнікам.

На захадзе сонца гурт SD з Глыбокага разам з братам Віктарам зноў сабраў усіх каля сцэны, каб разам праславіць Госпада і Марыю супольнымі спевамі, пасля чаго на заканчэнне сустрэчы ўсе ў касцёле заспявалі Літанію да Найсвяцейшай Панны Марыі і атрымалі блаславленне святароў.

Асаблівая радасць прагучала напрыканцы ўрачыстасці навіна, што гэтым летам, нарэшце, зноў пойдуць пілігрымкі ў Будслаў, так любімыя асабліва моладзю, зноў адбудуцца Дыяцэзіяльныя дні моладзі Віцебскай дыяцэзіі. Так што маладыя людзі ад'язджалі дадому, напоўненая радасцю хуткіх новых сустрэчаў.

*Відэазапіс казання можна паглядзець на ютуб-канале*



*Тэкст і фота:*
***Ганна Смільгінь,***
*ddm-vicebsk.by*

## На чэрвень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 чэрвеня** – дзень нараджэння і гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **ксёндз-канонік Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*;

**3 чэрвеня** – імяніны адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*; дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*;

**9 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*, **кс. Алег Зямчонак** *(Глыбокае)*;

**11 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Марціноўскі** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Росіца)*;

**13 чэрвеня** – імяніны адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалаты)*, **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*;

**14 чэрвеня** – гадавіну пасвячэння адзначае **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*;

**15 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Паставы)*;

**17 чэрвеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*;

**19 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Росіца)*, **а. Ілля Саўчанка MIC** *(Орша)*;

**20 чэрвеня** – імяніны адзначае **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*;

**21 чэрвеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **ксёндз-канонік Яцэк Хутман** *(Камаі)*, **кс. Віктар Сініцкі SCJ** *(Шаркаўшчына)*;

**22 чэрвеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Аляксандр Астраушка OFMCap** *(Докшыцы)*;

**23 чэрвеня** – імяніны адзначае **кс. Зянон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**24 чэрвеня** – імяніны адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Наваполацк)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*;

**27 чэрвеня** – імяніны адзначаюць **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін, кс. Уладзіслаў Шарковіч** *(Віцебск)*;

**29 чэрвеня** – імяніны адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Паставы)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Арфеева***

# Тэст на літару "В"

**У новым тэсце "Каталіцкага Весніка" знайдзіце правільныя адказы, якія пачынаюцца на літару "В".**

**1 Святая Камунія, якую прымае цяжка хворы чалавек разам з сакраментам намашчэння хворых, – гэта…**



**А.** Валік;
**Б.** Вернік;
**В.** Віятык.

**2 Якую малітву Езус прадыктаваў святой Фаустыне ў Вільні 13 – 14 верасня 1935 года?**



**А.** Вяночак да Сэрца Езуса;
**Б.** Вяночак да Божай Міласэрнасці;
**В.** Вяночак на ўшанаванне Маці Божай Балеснай.

**3 Прозвішча гаспадарчага і палітычнага дзеяча Беларусі, шчырага католіка, які на свае грошы пабудаваў у Мінску велічны касцёл святога Сымона і святой Алены (Чырвоны касцёл).**



**А.** Вайніловіч,
**Б.** Валадкевіч;
**В.** Варанецкі.

**4 Месца ўстанаўлення сакраманту Эўхарыстыі…**



**А.** Вячэрнік;
**Б.** Вінніца;
**В.** Вазярэц.

**5 У перакладзе з лацінскай мовы гэтае слова абазначае "чуванне"…**



**А.** Вячэра;
**Б.** Вігілія;
**В.** Вялікдзень.

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

**6 Мясцовасць, дзе амаль 50 гадоў працаваў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі, перакладчык Бібліі і Катэхізіса на беларускую мову, легендарны святар-адраджэнец, які шмат зрабіў для таго, каб у нашых касцёлах сёння гучалі малітвы і Божае Слова на роднай мове.**



**А.** Вішнева;
**Б.** Волма;
**В.** Вязынь.

**7 Згодна з большасцю крыніц, у гэтай мясцовасці знаходзіцца самы высокі касцёл Беларусі…**



**А.** Віцебск;
**Б.** Варняны;
**В.** Відзы.

**8 Якое слова неабходна ўставіць замест шматкроп'я: "Пасля гэтага Езус, ведаючы, што ўжо ўсё збылося, каб здзейснілася Пісанне, кажа: "Прагну!" Стаяла пасудзіна, поўная ... Тады ўздзелі на трысціну губку, намочаную ..., і паднеслі да Яго вуснаў. Калі Езус пакаштаваў ..., сказаў: "Збылося!" І, схіліўшы галаву, сканаў.**



**А.** Вада;
**Б.** Воцат;
**В.** Віно.

**9 Адзін з тытулаў Папы…**



**А.** Вікарый Езуса Хрыста;
**Б.** Галоўны вікарый,
**В.** Генеральны вікарый.

**10 Адзін з пладоў Святога Духа:**



**А.** Велікадушнасць;
**Б.** Вера;
**В.** Воля.

# Рамуальд Хацяловіч: “Гэтыя святары столькі мне далі ў жыцці – проста цуд!”

**Гэта размова адбылася амаль год таму. Мне патэлефанаваў чалавек, які назваўся Рамуальдам Хацяловічам, і прапанаваў распавесці пра чатырох ксяндзоў Мосарскай парафіі. Тыя святары паўплывалі на жыццё спадара Рамуальда, а два з іх адыгралі ключавую ролю ў жыцці.**

**Слова Рамуальду Хацяловічу.**



***

**Пры ксяндзу Станіславу Мосар ведалі на ўсёй Віленшчыне**

Першым ксяндзом, якога я памятаю, быў Станіслаў Клім. Ён служыў у Мосары да 1939 года. Гэты святар вянчаў маіх бацькоў, хрысціў мяне.

Пры ксяндзу Станіславу жыццё Мосарскай парафіі было найбольш энергічным. Яна, можна смела сказаць, першае месца на ўсёй Віленшчыне займала. Такія вялікія фэсты на святога Яна былі, што, як мая мама распавядала, каля пляца, дзе зараз Булька зрабіў дэндрапарк, усё было застаўлена таварамі. Прадаваліся розныя святыя рэчы. Настолькі шмат людзей збіралася, што і з боку Глыбокага, і з боку Шаркаўшчыны, і з Варапаева на дарозе і ў двапрах да кіламетра стаялі людзі. Нават такімі пілігрымкамі прыходзілі, як зараз у Будслаў ідуць.

Станіслаў Клім шмат тады зрабіў для парафіі. Пры ім пачаў працаваць так званы “дом людовы”. Ён быў непадалёк ад касцёла, дзе звініца прыкладна зараз. У гэтым доме месціліся розныя арганізацыі – як для людзей дарослых, так і для моладзі. Было нешта падобнае да таго, што зараз называецца мастацкай самадзейнасцю.

Я аднаго дзядзьку ведаў, ён так палюбіў гэты занятак, так трэніраваўся, пасвячы кароў, нават рабіў нейкія жэсты. Жанчыны ідуць даіць кароў, а Антон Жук нешта там карове распавядае. Вось наколькі тады віравала жыццё ў гэтым доме.

У 1939 годзе ксёндз Клім быў пераведзены ў іншую парафію, а ў Мосар прыехаў ксёндз Баляслаў Гэльмар.

Пасля вайны ксёндз Станіслаў апынуўся ў Польшчы, а з нашых мясцін многія тады павыязджалі ў Польшчу, у тым ліку і мая радня. Засталіся толькі мая мама і я: мама не магла паехаць, бо трэба было даглядаць хворых бацькоў.

Бацька мой ваяваў на фронце, забраны быў яшчэ ў 1939 годзе, служыў у арміі Андэрса. Мы атрымалі ад яго вестку толькі ў 1947 годзе. Ён тады прыехаў у Польшчу да сваіх бацькоў, хацеў нас забраць, але не атрымалася.

Пачалося ўсё праз звычайную бюракратыю. Да нас у школу прыйшоў новы дырэктар. Мы ўсе пісаліся палякамі, я пры хросце быў запісаны як Ромуальд. А ён мяне запісаў Раманам, маўляў, які ты Ромуальд. Прозвішча таксама запісалі як Хацяловіч (Хотилович) (хоць было Хоціловіч), мама звалася Феліцыя, а яе запісалі як Фэлікса. А бацька зрабіў запрашэнне на польскія імёны і прозвішча. І ў нас тады не атрымалася паехаць.

Дык вось пасля вайны ксёндз Станіслаў Клім аказаўся ў тых мясцінах, дзе было шмат яго былых парафіян. І для іх гэта стала вялікай радасцю. Ён там быў ужо ксяндзом-прэлатам.

Дарэчы, ксёндз Станіслаў Клім збіраў ахвяры на пабудову новага мураванага касцёла ў вёсцы Барэйкі. Арцыбіскуп Рамуальд Яблжыкоўскі ўхваліў гэта будаўніцтва. Там і зараз захаваўся невялікі драўляны касцёл. Туды ездзіў маліцца ксёндз Булька, і пасля яго ксяндзы ездзілі. А яшчэ хачу адзначыць, што мама дала мне імя Рамуальд у гонар біскупа Яблжыкоўскага, спадзеючыся, што я стану ксяндзом.

***

**Ксёндз Баляслаў дапамагаў людзям падчас нямецкай акупацыі**

Потым у нас служыў кёндз Баляслаў Гэльмар. Ён быў этнічным немцам. Да нас у Мосар прыйшоў служыць у 1939 годзе. А першая ягоная Імша была ў 1929 годзе ў Ружанах. Калі нашы землі занялі немцы, ён з імі кантактаваў, дапамагаў нашым людзям у стасунках з імі.

Быў такі выпадак. У нас ёсць возера мосарскае, называецца Царковішча. Там кожны год было тхло, не хапала кіслароду ў вадзе. І рыба тады збіралася каля падводных крыніц. Рыбакі гэтыя мясціны ведалі. І потым па розных прыкметах шукалі іх.

А пры немцах быў каменданцкі час. Трэба было строга-настрага завешваць усе вокны – так званая “святломаскіроўка”. Чатыры нашыя мужыкі, прозвішчаў ужо не памятаю, пайшлі на возера шукаць тхло. Гадзіннікаў ні ў кога з іх не было, яны празявалі гэты час, і немцы забралі іх у каталажку. І прыгразілі ім сувяззю з партызанамі, бо лес быў блізка. Ім пагражаў або расстрэл, або ў лепшым выпадку – канцлагер. І тады ксёндз выручыў гэтых людзей.

Ён часта дапамагаў людзям, калі трэба было заявы якія напісаць, вырашыць якое пытанне. Я гэтага ксяндза добра памятаю, пры ім я пайшоў да першай Камуніі. Святар быў невялікага росту, паехаў з апошнім літоўскім гарнізонам, бо ў нас у той час стаялі літоўцы. Ён правільна зрабіў, што паехаў, бо вызваліцелі яго б не пашкадавалі.




***

**Ксёндз Антоні ўратаваў мне жыццё**

У 1945 годзе прыехаў да нас ксёндз Куява. Хачу распавесці пра яго дзейнасць. У тым годзе, восенню, я захварэў на запаленне. Тады ніякіх медыкаў у нас не было, да Глыбокага далёка, да Варапаева далёка, ды і людзі тады асабліва і не ішлі да гэтых дактароў: нейкія банькі там ставілі, зёлкі розныя… І я пачаў паміраць, не мог падняцца ўжо, ногці пасінелі…

Пазвалі ксяндза Куяву для апошняга намашчэння і для апошняй споведзі. Ксёндз прыехаў, яго сустрэлі, як належыць, з крыжам і са свечкамі, усё падрыхтавалі…

Ён ездзіў яшчэ на тым кані, што ад Гэльмара застаўся, фурман адмысловы быў. І Куява ездзіў заўсёды хутка. Ён заўжды фурмана падганяў, каб хутчэй ехаў.

І вось ён прыехаў да нас, паспавядаў мяне. Потым апошняе намашчэнне, ксёндз загадаў пакінуць нас сам-насам. Я добра памятаю: падышоў да мяне, сказаў адкрыць рот, нешта ўсё прыглядаўся, падняў рукі мае, а ў мяне ўжо ногці былі чорныя такія… Спіна ўжо чорная была. Але я быў у прытомнасці, усё гэта памятаю.

Потым ён дастае трубачку драўляную, для мяне гэта было дзіва, я такога не бачыў. Пастукаў мяне па грудзях, пачаў слухаць. Доўга слухаў, пазваў маму і кажа: “Ведаеш, кабета, гэтага хлопца трэба ратаваць. Трэба і да Пана Бога маліцца, але і трэба дапамагчы яму. Я ведаю, што ў вас такое жыццё цяжкое, няма харчавання, няма ежы нармальнай, але на прамілы Бог знайдзіце такія стравы, каб было малако кожны дзень, масла і мёд. Кожную раніцу, абед і вечар закіпяціць малака, наліць у шклянку, размяшаць у ім лыжку мёду і лыжку масла, і так яму давайце”. І яшчэ сказаў маме прыйсці да яго, ён гляне, якія ёсць у яго парашкі. Мама схадзіла да яго, я стаў гэта малако піць – і на дзіва стаў папраўляцца. Ужо мог садзіцца. І вось я перад вамі і зараз. Гэта проста цуд нейкі.

І пайшла тады пагалоска пра ксяндза, што людзей можа лячыць. Як пазней аказалася, ён два курсы медінтытута закончыў. Гэта мой збаўца, так бы мовіць!

***

**Ксёндз Міхал мне казаў: “Ромку, мусіш далей вучыцца!”**

Вось у Інтэрнэце напісана, што пасля Гэльмара быў Сухарэвіч. Гэта няпраўда! Тут напісана, што ён быў з 1954 года. У мяне ёсць доказы, што ён быў ужо 1953 годзе. І нават, здаецца, ці не з 1952-га.

Дык вось гэты ксёндз адыграў у маім жыцці вялікую ролю. Ксёндз Міхал Сухарэвіч прыйшоў да нас такі замучаны. У адрозненне ад Куявы, які быў такі энергічны, каб усюды быў парадак, каб усё было дакладна….

Што ён добрага зрабіў у маім жыцці? Я тады закончыў толькі сем класаў у Мосары, і па беднасці нікуды далей не мог паступіць. Спрабаваў паступіць у Рыжскае рачное вучылішча, не атрымалася, узяў як той дурань чэсна напісаў, што бацька быў у арміі Андэрса, і гэтага хапіла. Сказалі: усё, едзь дахаты, хлопец…

Дык вось, ксёндз прыехаў да нас такі ⇒



Ксёндз Станіслаў Клім





Ксёндз Баляслаў Гэльмар



Ксёндз Міхал Сухарэвіч



⇐ забіты, так ён баяўся гэтых бальшавікоў… Тады ўжо парафіяльны дом забралі пад бальніцу, і ксёндз пасяліўся недзе пасярод вёскі ў адной жанчыны, такая пані Мальвінка была, законніца (манашка) трэцяга закону. Ён у яе жыў, і ў касцёл трэба было ісці праз вёску і праходзіць каля сельсавета. І як ён ішоў, то прасіў мяне і майго сябра Эдзіка, каб разам на Імшу ісці. І калі мы праходзілі каля сельсавета, дык ён аж тросся. А пасля спытаў у нас, ці ёсць якая іншая дарага да касцёла. Мы знайшлі такую сцежку палявую, і Сухарэвіч па ёй хадзіў у касцёл.

Але ён быў такі душэўны чалавек, такі чуллівы! У яго былі вельмі прыстойныя адносіны да людзей, асабліва да жанчын, да дзяўчат. А як казанне казаў, то так уваходзіў у тэму, што часам аж плакаў. Нават як Найсвяцейшы Сакрамант выстаўляў, то слёзы выступалі ў яго. Мяне неяк ён выдзеліў з усіх, можа, таму, што бацькі ў мяне не было, што бацька ваяваў за Польшчу ў арміі Андэрса. Ён запрашаў мяне на абед дадому з Эдзікам пасля Імшы, навучыў нас карыстацца відэльцам і нажом, як бутэрброды рабіць, як ежу правільна ўжываць далікатна.

Гэта потым мне так спатрэбілася, бо як я стаў інжынерам, даводзілася ездзіць у Заходнюю Нямеччыну, бываць там у рэстаранах. І я бачыў, як нашы хлопцы з вышэйшай адукацыяй не ўмелі правільна сталовымі прыборамі карыстацца. Я гэта ўмеў, і за тое ўменне вельмі ўдзячны нашаму ксяндзу.

Я вельмі люблю чытаць. Я шмат кніг тады перачытаў, шмат якія з іх ксёндз з Вільні прывозіў. Я прачытаў у арыгінале ўсяго Сянкевіча, можа, палову Ігнацыя Крашэўскага, гістарычныя раманы. Святар заўважыў у мяне добрую памяць, любоў да гісторыі, усё гэта ў мяне з дзяцінства было. Ён мне казаў: "Ромку, мусіш далей вучыцца, бо маеш такія здольнасці…" Карацей, ён мяне настроіў на гэта. Праўда, я тады яшчэ не ведаў, як гэта рэалізаваць.

Мы тады жылі на хутары, жылі бедна, ды і калгас быў такі бедны, такі бесталковы, там нічога людзям не плацілі. А да гэтага перажылі вайну. Ноччу партызаны прыходзілі… А ў гарнізоне літоўцы сядзелі, партызанаў тых амаль не чапалі, і мы, жыхары ўсіх хутароў, былі абрабаваныя да ніткі. Спачатку забралі свіней, потым авечак, пасля і карову забралі. Таму пасля вайны ў нас і каровы сваёй не было. Вось такое было жыццё.

А ксёндз мяне вельмі падбадзёрваў, ва ўсім падтрымліваў. Вось у мяне кніжка ёсць, 1923 года выдання. Напісаў яе таксама ксёндз, Юзаф Кёрн, немец па нацыянальнасці. Яна вельмі добра напісана, асабліва для маладых хлопцаў. Каб гэта ўсё выконваў, што напісана, то быў бы святы пры жыцці. І ў гэтай кніжцы ёсць доказ таго, што ён прыйшоў да нас не ў 1954 годзе, як напісана. "Дарагому Рамуальду Хацяловічу, міністранту парафіяльнага касцёла святой Анны ў Мосары ахвярую сціплай зорачкай перад Божым нараджэннем. Заўсёды ўдзячны пробашч Міхал. Мосар, 24.12.1953".

Ксёндз Сухарэвіч быў у лагерах недзе каля Волагды, там страціў здароўе, пражыў мала, ён памёр у 1961 годзе. Як я ўдзячны гэтым двум ксяндзам! Ксяндзу Куяву і ксяндзу Сухарэвічу! Я б мог апусціцца ў гэтым калгасе, хадзіў бы за плугам ды пасціху співаўся, як многія вяскоўцы.

У 1956 годзе мяне прызвалі ў армію. Я служыў у Забайкаллі, потым застаўся на звыштэрміновую службу. А адслужыў я два гады, усюды ў той час было тры, а мы служылі два. Думаю, чаму мне не застацца. Застаўся яшчэ на два гады, скончыў восьмы клас. Пасля пераехаў у Іркуцк, закончыў вячэрнюю школу пры авіяцыйным заводзе. Толькі адна "чацвёрка" ў мяне была. Потым пераехаў у Беларусь, даволі лёгка паступіў завочна ў інстытут, добра яго закончыў і стаў працаваць інжынерам-электрыкам. Быў на розных кіроўных пасадах. І дарос не толькі да галоўнага энергетыка, але і да галоўнага інжынера Маладзечанскага мэблевага аб'яднання.

І за ўсё гэта па сённяшні дзень дзякую свайму пробашчу. Усё жыццё я пра яго памятаў, і на Дзяды за ксяндзоў Антонія і Міхала малюся. Да гэтага часу дагледаю магілу ксяндза Міхала. Заўсёды ў спісе я першымі гэтых двух ксяндзоў падаю. Яны столькі мне далі ў жыцці, проста цуд!

Я вельмі перажываю за Мосарскую парафію, люблю яе, прыязджаю сюды кожны год. Такія вось святары былі ў Мосарскай парафіі і ў маім жыцці.

*Зміцер Лупач*

# У Мінску развіталіся са Станіславам Шушкевічам – першым лідарам незалежнай Беларусі

**6 і 7 мая ў Мінску адбылося развітанне з прафесарам Станіславам Шушкевічам, былым Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР і першым лідарам незалежнай Беларусі.**

■ **Мікола Гракаў**, *тэкст;* **Віталій Паліneўскі**, *фота Catholic.by*

Вядомы беларускі вучоны, палітычны і грамадскі дзеяч адышоў у вечнасць 3 мая ў Мінску на 88-м годзе жыцця ў выніку ўскладненняў пасля перанесенага каранавіруснага захворвання. Станіслаў Шушкевіч прычыніўся да вяртання вернікам каталіцкіх святынь, у тым ліку катэдральнага касцёла Найсвяцейшага імя Марыі, касцёла святога Сымона і святой Алены (Чырвонага касцёла) у Мінску, а таксама комплексу былога кляштара бэрнардынаў у Гродне, дзе размясцілася Вышэйшая духоўная семінарыя і пасля трох пакаленняў атэістычнага пераследу распачалася падрыхтоўка беларускіх каталіцкіх святароў.

Развітанне са спачылым Станіславам Шушкевічам праходзіла ў мінскім архікатэдральным касцёле Найсвяцейшага Імя Марыі – сімвале вясны Касцёла ў Беларусі, што распачалася разам з нашай новай дзяржаўнасцю, ля вытокаў якой стаяў Станіслаў Шушкевіч.

З вечара 6 мая ў касцёл прыходзілі тысячы людзей, каб развітацца з нябожчыкам. Як знак сваёй шчырай павагі, сардэчнай любові і непадробнай удзячнасці яны неслі жывыя кветкі і запальвалі знічы.

7 мая апоўдні адбылася пахавальная святая Імша, цэлебрацыю якой узначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі. Разам з ім маліліся арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, святары і многія вернікі. Прысутнічалі прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу.

Развітацца са спачылым прыбыла прафесар Эльжбета Смулэк, якая была першым пасламПольшчы ў Беларусі.

Да сабраных у галоўнай святыні Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, многія з якіх не змясціліся ўсярэдзіне і стаялі звонку, далучыліся сотні тых, хто глядзеў анлайн-трансляцыю жалобнага набажэнства на партале Catholic.by.

На пачатку цэлебрацыі арцыбіскуп Станеўскі зазначыў, што прысутныя ў святыні сабраліся, каб падзякаваць Богу і чалавеку за сустрэчу, нагадаўшы словы Папы Францішка, што жыццё чалавека – гэта не адлік пражытых гадоў, а сустрэча. У прамоўленай гаміліі іерарх заўважыў, што развітанне з блізкім чалавекам з'яўляецца балючым, "але наша развітанне з памерлым напоўненае вялікай хрысціянскай надзеяй на тое, што мы зноў сустрэнемся".

Гаворачы пра асобу нябожчыка, арцыпастыр адзначыў, што хоць ён і не быў актыўным католікам, але быў выхаваны ў каталіцкім духу.

"З цеплынёю ён узгадваў сваю бабулю, якая вучыла яго ў малітве звяртацца да Бога, паказвала высакародны шлях жыцця чалавека, вернага Богу і Айчыне.

Станіслаў Станіслававіч як навуковец прызнаваў, што толькі дасягненнямі прыродазнаўчых навук немагчыма растлумачыць з'яўленне і існаванне свету, а таксама развіццё чалавецтва", – сказаў арцыбіскуп, узгадаўшы, што калісьці Станіслава Шушкевіча моцна ўразіла пачутая ім у Польшчы прамова Караля Вайтылы, будучага святога Папы Яна Паўла II, чые словы яго духоўна ўмацавалі, абудзілі сумленне і паўплывалі на яго далейшае жыццё.

"Сёння мы сабраліся дзеля развітання з першым кіраўніком незалежнай Беларусі. Жыццё святой памяці Станіслава прыпала на гістарычны перыяд вялікіх перамен у нашай Бацькаўшчыне і ва ўсім свеце. Гэта быў час вялікіх выпрабаванняў і вялікіх надзей.

Намаганнямі святой памяці Станіслава і рашэннямі тагачаснай улады былі вернутыя многія касцельныя будынкі, у тым ліку гэтая катэдральная святыня, у якой мы цяпер знаходзімся, а таксама будынак Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне", – адзначыў іерарх, дадаўшы, што ён сам як семінарыст разам са сваімі калегамі меў магчымасць асабіста падзякаваць Станіславу Шушкевічу за магчымасць навучання ў сценах гродзенскай семінарыі.

На заканчэнне гаміліі арцыбіскуп Станеўскі заахвоціў удзельнікаў набажэнства даручыць душу памерлага Станіслава моцы Уваскрослага Хрыста і атуліць малітвай таксама яго родных і блізкіх, выказваючы ім шчырыя словы спачування і падтрымку.

Абрады апошняга даручэння і развітання ў касцёле правёў кіраўнік беларускага каталіцкага епіскапату біскуп Алег Буткевіч, які таксама ўзначаліў цэлебрацыю пахавання на мінскіх Паўночных могілках, дзе і быў пахаваны першы лідар незалежнай Беларусі.

Падчас жалобнай цырымоніі прысутны на пахаванні Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі пан Артур Міхальскі зачытаў спачувальны адрас з нагоды смерці Станіслава Шушкевіча ад Прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды.



### Пахвалёны Езус Хрыстус!



Паважаны **ксёндз Віктар Місевіч**! З нагоды чарговай гадавіны святарскага пасвячэння дасылаем Вам самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог блаславляе кожны Ваш дзень, а Найсвяцейшая Маці нястомна апякуецца Вамі! Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і багатага плёну ад святарскага служэння, зычлівых людзей побач. Няхай добрая ўсмешка ніколі не зыходзіць з твару, а шчодрае сэрца хай будзе заўсёды гатовым дзяліцца радасцю! Падарункам для Вас няхай будуць нашы шчырыя малітвы!

**З павагай, сем'і Місевіч і Вяршэль**

### Хвала Хрысту!



8 мая **ксёндз-пробашч Лешэк Вітвіцкі** адзначыў трыццаціголдзе святарскага пасвячэння. З гэтай нагоды мы віншуем яго і дзякуем за добрае сэрца, за клопат пра парафію, за добразычлівасць і мудрасць!

Езус вучняў навучаў у лодцы:
"Вера можа ветры ўтаймаваць!"
Вы ў касцёле нашым у Слабодцы
Вучыце нас Богу давяраць!

Вы пайшлі апостальскай дарогай.
Трыццаць год мінула з той пары.
Шчырай працай і малітвамі да Бога
Служаць у касцёлах святары.

Вам жадаем за святарскае служэнне:
Маці Божая няхай Вас беражэ!
Кожны дзень Хрыста благаслаўлення
І здароўя цела і душы!

**З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Божага Провіду ў Слабодцы (Браслаўскі раён)**

### Хвала Хрысту!

З вялікай удзячнасцю дасылаем пяшчотныя словы віншавання з нагоды Дня нараджэння (26 мая) шаноўнаму **ксяндзу Эдварду Нарадоўскаму**.

Жадаем Вам, паважаны ксёндз Эдвард, Божага благаслаўлення, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай! Няхай Пан Бог адорыць Вас душэўным супакоем і радасцю ў святарскім служэнні!

**Вернікі парафіі Маці Божай Ласкавай, в. Задарожжа**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

Шаноўны **ксёндз Віталь Венцкевіч**!

16 мая Вы адзначаеце два гады святарскага пасвячэння. Віншуем Вас з гэтай падзеяй і жадаем усіх патрэбных ласкаў ад Вашага Пастыра: мудрасці, мужнасці ў распаўсюджванні веры, радасці ў абвяшчэнні Евангелля, сілы і трываласці, добразычлівых людзей побач!

Наша парафія стала першым месцам Вашага служэння ў якасці святара. Дзякуем Вам за ахвярнае служэнне на карысць нашай супольнасці! Няхай Добры Бог, Найсвяцейшая Панна Марыя і Ваш апякун Антоній Падуанскі клапоцяцца пра Вас, прыносяць радасць і суцяшэнне!

**З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага ў Паставах**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

Паважаная **сястра Цэцылія Абухоўская**! З нагоды дня нараджэння складаем Вам шчырыя віншаванні. Жадаем заўсёды ўздароўі і шчасці быць, не ведаць клопату, згоды і да 100 год прыгожа жыць! Няхай Пан Бог абараняе ад зла, хвароб і слёз і пасылае патрэбныя ласкі ў Вашым жыцці!

**З павагай, сем'і Місевіч і Вяршэль**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

Шаноўны **ксёндз-пробашч Вадзім!**

З вялікай радасцю віншуем Вас з нагоды 12-й гадавіны святарскага пасвячэння (22 мая)!

Прыміце нашы шчырыя пажаданні добрага здароўя, цярпення, душэўнага супакою і добрага настрою! Шчыра дзякуем за дванаццаць гадоў працы ў нашым касцёле – спачатку вікарыем, а з 2016 года – пробашчам. Шчыра дзякуем пра клопат кожнага з нас, за зычлівасць і ветлівасць!

Нізкі паклон Вам, дарагі наш святар, за сумесныя малітвы, за разуменне, за падтрымку нашых ініцыятываў! Божай падтрымкі Вам ва ўсіх справах, багатага плёну ва ўсіх задумах! Няхай Пан Бог шчыра адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, памнажае мудрасць і падтрымлівае ў цярпенні!

**З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага ў Паставах**

### Хвала Хрысту!

Шаноўны **ксёндз-канонік Яцэк Хутман**!

Наш паважаны пробашч!
Віншуем Вас з 50 – годдзем!
Жадаем з радаснай нагоды
Здароўе мець, са шчасцем быць,
Не знаць бяды, жадаем згоды,
Да ста гадоў Вам зычым жыць.
Няхай заўсёды Бог абараняе
Ад зла, хваробы і журбы
І ласку шчодра пасылае
Сёння, заўтра і заўжды!

**Вернікі Камайскай парафіі**

### Хвала Хрысту

Віншуем нашага **пробашча Яўгена Шымановіча** з імянінамі (31 мая) і гадавінай святарскага пасвячэння (23 мая), а таксама былога **пробашча Уладзіміра Шымковіча** - з гадавінай святарскага пасвячэння (14 мая).

Гэта сапраўдныя пастыры сваіх авечак, людзі, якія аддана служаць выбранай справе раз і назаўсёды.

Шчыра жадаем Вам, нашы шаноўныя ксяндзы, шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, плёну ў працы на Божай ніве, моцнага здароўя, даўгалецця! Няхай Пан Бог дапамагае Вам у выкананні ўсіх задумак, святло Духа Святога няхай натхняе на добрыя справы, а Маці Божая апякуецца Вамі ўсё жыццё!

**Парафіяне з г. Дуброўна**

### Хвала Хрысту!

Месяц май шчодры на ўрачыстыя падзеі для нашых паважаных айцоў францішканаў з Удзела. 13 мая – гадавіна святарскага пасвячэння ў **а. Вальдэмара Куявы**, а 29 мая – гадавіна святарскіх пасвячэнняў у **а. Яраслава Банасяка** і ў **а. Віктара Мялешкі** (прычым у а. Віктара гэта першая гадавіна). А яшчэ а. Віктар 21 мая святкуе імяніны.

Мы, парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Удзела, віншуем нашых айцоў з іх урачыстасцямі і жадаем трывалага здароўя, мудрасці і супакою. Хай Маці Божая ахінае іх сваёй ласкай, а Дух Святы натхняе на добрыя справы на карысць нашай парафіі і ўсяго Касцёла!

### Хвала Хрысту!

Вернікі з Браслава ў гадавіну прыняцця Сакраманту святарства віншуюць і атуляюць малітвай **ксяндза-біскупа Алега**, а таксама **айцоў-сальватарыянаў Станіслава, Уладзіміра і Лешэка**.

Вашыя святарскія далоні Айцец стварыў, Сын – умілаваў, Дух святы – асвяціў. За тое, што трымаеце Хрыста ў сваіх далонях, няхай Богу будзе хвала!

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

Нядоўгі час працуе ў нашай парафіі **ксёндз-канонік Эдвард Ахрамовіч**. Гэта мудры, сціплы, культурны святар. У нашых вачах ні словам, ні паводзінамі не здрадзіў Божай справе. Ён сваім прыкладам, мэтанакіраванасцю і цярплівасцю напаўняе нашы душы верай, любоўю і міласэрнасцю. Нашы парафіяне вельмі ўдзячныя ксяндзу Эдварду за радасць і спакой, якія жывуць у нашай святыні. Ён добра разумее сваіх парафіян, навучае іх, дапамагае ў розных жыццёвых справах. У нядзелю адпраўляе па тры Імшы, едзе за 10-20 кіламетраў, каб данесці Божае слова, умацаваць у веры вернікаў трох парафій у Пеліканах, у Опсе і Дрысвятах. Акрамя таго святар нястомна абжывае, упрыгожвае тэрыторыю вакол плябаніі ў Дрысвятах.

1 чэрвеня ў нашага любага святара Дзень нараджэння і гадавіна святарскага пасвячэння. З гэтай нагоды сардэчна жадаем, каб Дух Святы асвяціў сваёй ласкай зямны шлях нашага цудоўнага душпастыра, даў яму моцнае здароўе, бясконцую крыніцу энергіі! Маці Божая, ахіні яго сваёй апекай на нялёгкім святарскім шляху, умацуй у святасці і веры!

**Парафіяне Дрысвяцкага касцёла (Браслаўскі р-н)**

### Хвала Хрысту!

1 чэрвеня наш **душпастыр Эдвард Ахрамовіч** адзначае Дзень нараджэння і Дзень атрымання сакраманту святарства.

Шаноўны ксёндз Эдвард! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з гэтай нагоды! Жадаем Вам моцы, надзеі, веры і сілы, каб верна служыць Богу! Моцнага здароўя, Божай дапамогі, апекі Маці Божай і Анёла Ахоўніка!

**З павагай і малітвай, вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля (аг. Опса)**

### Пахвалёны Езус Хрыстус!



З вялікай радасцю, адкрытымі сэрцамі і шчырымі пачуццямі віншуем з нагоды Дня нараджэння (3 чэрвеня) і з імянінамі (24 чэрвеня) нашага ўсімі любімага **ксяндза Яна Пугачова**!

Усе вернікі нашай парафіі вельмі ўдзячныя Айцу Нябеснаму, што так склаўся лёс, што Вы ёсць у нас! Шаноўны ойчанька! Мы вельмі Вас цэнім, любім і паважаем за чалавечнасць і дабрыню, за тонкі гумар і лагодную ўсмешку, за праўдзівыя словы, за клопат пра ратаванне нашых душаў ад граху, за прыклад любові да Бога і людзей. Праз слова Божае, праз малітвы Вы набліжаеце нас да веры і ўсяго святога. Вялікі дзякуй за шчырае душпастырскае служэнне, за разумныя, зразумелыя і прыгожыя казанні падчас святой Імшы!

Няхай Ваш нябесны апякун ніколі не адыходзіць ад Вас, аберагае, клапоціцца і дапамагае ў святарскіх справах і асабістым жыцці! Няхай Божая міласэрнасць заўсёды будзе з Вамі і Вашымі роднымі! Моцнага здароўя, даўгалецця, цярплівасці, вытрымкі, душэўннага супакою, Божай ласкі, апекі Маці Найсвяцейшай! Няхай Дух Святы ніколі не пакідае Вашае сэрца, а Збаўца наш, Езус Хрыстус, хай вядзе па прыгожым, хоць і цяжкім шляху пастырскага служэння! А мы сваёй малітвай будзем падтрымліваць Вас!

**З вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святога Міхала Арханёла (аг. Лужкі Шаркаўшчынскага раёна)**

### Хвала Хрысту!

1 мая адзначыў імяніны **ксёндз Алег Зямчонак. Ксёндз Мікалай Ціхановіч** святкуе 14 мая Дзень нараджэння, а 19 мая – чарговую гадавіну святарскага пасвячэння. З вялікай удзячнасцю віншуем нашых паважаных душпастыраў!

Шаноўныя ксёндз Мікалай і ксёндз Алег! Няхай Вашы сэрцы напаўняе Божы спакой, мудрасць, надзея, вера і любоў! Жадаем Вам мужнасці, разважлівасці і плённага служэння на Божую хвалу! Няхай Нябесная Матуля атуляе Вас сваёй апекай!

**Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім**

# Што азначае адзенне манаха-даміпіканца?

**Калі я іду па вуліцы ў дамініканскім габіце, акрамя здзіўленых позіркаў мінакоў можна пачуць: ”Хто гэта?” альбо прагучыць сцвярджальнае: “Крышнаіт!” Рэдка хто адважыцца запытацца, хто я такі. Найлепшая рэакцыя дзяцей на манаскае адзенне. Ад “Мама, а чаму дзядзя ў сукенцы?” да “Мама, гэта Бог?”**

■ Айцец Павел Мажэйка, *дамініканец з Віцебска*

Сумна, што кансэкраваная асоба ў адзенні, звычайным для пэўнага ордэна альбо кангрэгацыі, выклікае такое здзіўленне ці неразуменне. Прычыны гэтай з’явы крыюцца па абодвух баках, і тут не месца на тое, каб іх высвятляць і шукаць рашэння. Ніжэй я хацеў бы апісаць дамініканскі габіт, звяртаючы ўвагу на яго духоўнае значэнне. Ён хоць і зведаў пэўныя змены, у галоўным застаўся тым жа, які насіў заснавальнік ордэна Прапаведнікаў святы Дамінік у XIII стагоддзі. Ключом жа да разважанняў нехай будзе ўрывак з паслання да Эфесцаў, дзе апостал Павел прапануе глыбей паглядзець на сэнс істотных элементаў хрысціянскай веры.

“Апраніцеся ва ўсю Божую зброю, каб вы маглі супрацьстаяць подступам д’ябла. Бо нашая барацьба не супраць крыві і цела, але супраць панаванняў, супраць уладаў, супраць гаспадароў цемры гэтага свету, супраць нябесных духаў злосці. Дзеля гэтага прыміце ўсю Божую зброю, каб вы маглі супрацьстаяць у ліхі дзень і, усё адолеўшы, выстаяць. Таму станьце, падперазаўшы свае сцёгны праўдаю, і апрануўшыся ў панцыр справядлівасці, і абуўшы ногі ў гатовасць дабравесціць спакой. А разам з усім вазьміце шчыт веры, якім зможаце пагасіць усе распаленыя стрэлы злога; і шлем збаўлення вазьміце, і меч духоўны, якім ёсць Божае слова” (Эф 6, 11-17). Калі паспрабуем паглядзець на элементы вопраткі дамініканскага габіту не толькі знешне, але ў сэнсе іх духоўнай сімволікі, то можам адкрыць, што звычайнае манаскае адзенне адсылае нас да той нябачнай рэчаіснасці, якую мы вызнаём у сімвале веры, каторую Езус адкрывае ў Евангеліі і пра каторую, на жаль, мы забываемся, жывучы, сканцэнтраваныя толькі на матэрыяльным свеце.

**Колер габіту.** Напачатку трэба звярнуць увагу на колер матэрыялу, з якога зроблены габіт братоў-прапаведнікаў. У сучасных людзей можа з’явіцца слушнае пытанне: ці не мог святы Дамінік выбраць больш практычны ў штодзённым ужытку колер? Бо, згадзіцеся, каб хадзіць у белым кожны дзень, трэба вельмі асцерагацца, каб не пабрудзіцца. А як быць падчас дажджу, у час адлігі зімой? Аднак такі выбар колеру, хоць можа выклікаць неразуменне сучаснікаў, не быў выпадковым. Акрамя таго, што белы сімвалізуе чыстасць і святасць, такі варыянт адзення братоў-дамініканцаў меў больш празаічныя прычыны. Святы Дамінік заснаваў жабрачы ордэн, які мае жыць паводле ладу жыцця першых Апосталаў, а таму і вопратка братоў павінна быць як найбольш простай і таннай. Таму матэрыялам габіту стала белае нефарбаванае палатно. Найбольш даступнае і найбольш таннае ў часы першых крокаў ордэна ў XIII стагоддзі.

**Туніка.** Першым элементам манаскага габіту, які апранаюць кандыдатам у ордэн Прапаведнікаў падчас абраду пачатку навіцыяту, з’яўляецца туніка. Яна бярэ пачатак ад звычайнай кашулі, вядомай яшчэ са старажытнарымскіх часоў. Лёгка правесці аналогію з белай тунікай, у якую апранаюцца новаахрышчаныя, і фрагментам з кнігі Апакаліпсіса св. Яна: “Пасля гэтага я ўбачыў вялікі натоўп, якога ніхто не мог палічыць, з усіх народаў, плямёнаў, родаў і моваў, якія стаялі перад тронам і Баранкам, апранутыя ў белыя шаты і з пальмавымі галінкамі ў сваіх руках” (Ап 7, 9). Можна сказаць, што мы (падчас хросту таксама) атрымліваем гэтую вопратку як знак таго, кім маем быць, а менавіта святымі святасцю Хрыста. Яна даецца нам як задатак таго, да чаго мы імкнёмся ў духоўнай барацьбе.

Нягледзячы на тое, што абавязак абвяшчэння Добрай Навіны праз словы і прыклад жыцця ляжыць на кожным хрысціяніне, пра што прыпамінае нам хоць бы дэкрэт Другога Ватыканскага Сабору пра місійную дзейнасць Касцёла Ad gentes (гл. 20, 37), браты-дамініканцы праз складанне ўрачыстых законных шлюбаў бяруць на сябе асаблівую адказнасць у гэтай справе. Але пачаткам і падставай ёсць нашае пакліканне да сведчання пра Хрыста праз хрост.



Дамініканская туніка яшчэ адметная тым, што мае дзве нагрудныя кішэні якраз такой велічыні, каб там магла змясціцца невялікая кніжка. Гэта дапамагае ў любым моманце мець з сабою Евангелле альбо кнігу і звязана з адметнай інтэлектуальнай рысай дамініканскага ордэна – імкненнем да няспыннай вучобы, паглыбленнем ведаў пра Бога і свет.

**Пас.** Туніка звычайна перапаясваецца скураным пасам. І гэта не проста частка дамініканскага габіту. Так, як у Евангеліі Пан Езус заклікае нас да чування падперазанымі, гатовымі сустрэць свайго гаспадара (пар. Лк 12, 35-38), так браты-дамініканцы падперазаныя, каб праз прапаведаванне Евангелля набліжаць прыйсце Божага Валадарства.

**Ружанец.** У часы св. Дамініка рыцары насілі на пасе зброю. Таму браты-прапаведнікі на месцы, дзе звычайна быў прычэплены меч, змясцілі духоўную зброю – ружанец. З дамініканскім ордэнам слушна звязваюць місію распаўсюджвання і папулярызацыі гэтай формы малітвы. Яна добра спалучаецца з адным з дэвізаў ордэна: contemplare et contemplata aliis tradere, што значыць “сузіраць і дзяліцца пладамі сузірання з іншымі”. Што ж, як не разважанне разам з Марыяй над таямніцамі жыцця Хрыста, адпавядае ажыццяўленню гэтых словаў?! Кожны з братоў абавязаны кожны дзень маліцца хоць адну частку ружанца.

**Шкаплер.** Гэта характэрны элемент вопраткі ордэнаў і кангрэгацый, якія кладуць у сваёй духоўнасці націск на ўшанаванне Найсвяцейшай Панны Марыі. Розныя манаскія супольнасці маюць у сваёй традыцыі абразы Маці Божай, Каторая перадае шкаплер як знак сваёй асаблівай апекі каму-небудзь са святых.

**Капюшон.** Цікава, што гэтая частка вопраткі манахаў і свецкіх, распаўсюджаная ў часы “цёмнага Сярэднявечча”, стала папулярным элементам штодзённай вопраткі ў нашыя часы. Калі манахі выкарыстоўвалі капюшон, каб адгарадзіцца ад таго, што можа перашкаджаць у засяроджанні на малітве, то сёння ён звычайна замяняе галаўны ўбор.

**Капа.** Увесь дамініканскі строй завяршае чорная капа з каптурам, якая адносіцца да часу, калі святы Дамінік і першыя браты-прапаведнікі вандравалі ад горада да горада, клапоцячыся пра збаўленне душ праз абвяшчэння Слова Евангелля. Капа прыгадвае пра вандроўны, місійны характар нашага прапаведавання, але з’яўляецца таксама плашчом пілігрыма, які ўсведамляе сабе часовасць гэтага жыцця на шляху да Вечнай Айчыны.

Адна мама, даючы параду сваёй дачцы адносна спосабу апранання, казала так: “Падумай, якое пасланне ты хочаш даць свету праз тое, як выглядаеш”. Спадзяюся, што цяпер, сустрэўшы дамініканца, вы зможаце патлумачыць, якую вестку нясуць у свет браты ў чорнабелым адзенні.

## Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*“Каталіцкі Веснік”*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар’янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*“Каталіцкага Весніка”*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Чаму ў свеце існуе зло?

**"Хвала Хрысту! Адкажыце, калі ласка, на пытанне, чаму ў свеце існуе зло? Чаму Бог, Які ёсць Любоўю і адначасова Усемагутны, нічога не робіць, каб зло перастала панаваць у свеце? Ці, можа, Ён робіць, але неяк па-свойму, незаўважна? Дзякуй за адказ"**

*Павел*



**Ілюстрацыя: Дэталь фрэскі Мікеланджэла ў Ватыканскай Сікстынскай капэле з выявай грэхападзення чалавека і выгнання з Эдэмскага саду**

– Вельмі цяжка прыняць любое зло, несправядлівасць, несумленнасць, што з'яўляецца супрацьлегласцю дабру. Перад абліччам пакутаў, агульнай сапсаванасці, вайны, гвалту ў сэрцы кожнага чалавека ўзнікае пытанне: чаму? Па сваёй прыродзе Бог добры і з'яўляецца крыніцай кожнага дабра. Імкненне да ўдзелу ў такім дабры Бог змясціў у чалавека і стварыў яго такім, каб ён мог добра жыць і здзяйсняць добрыя справы паводле ўстаноўленага Усявышнім парадку і паводле яго слова. Аднак Бог таксама даў чалавеку магчымасць выбару. Гэта і дае людзям свабоду (нават насуперак уласнаму шчасцю!) не выкарыстоўваць прыроджаныя сілы дабра.

Зло ўвайшло ў свет. Вобразна можна сказаць так: Бог раздаў добрыя карты, але пакінуў людзям права самастойна разыграць "партыю". Бог – Творца, але Ён пакінуў чалавеку свабоду. Між тым многія людзі думаюць пра Яго як пра дыктатара, і таму вінавацяць Яго, калі што-небудзь здарaецца. Святое Пісанне выразна пярэчыць такому вобразу Творцы. "Не кажы: дзеля Пана я адступіўся; бо што Ён ненавідзіць, таго ты не павінен рабіць. Не кажы: "Ён увёў мяне ў зман", бо Ён не мае патрэбы ў мужы грэшным. Усякую брыдоту Пан ненавідзіць, і непрыемная яна тым, хто баіцца Яго. Ён ад пачатку стварыў чалавека і пакінуў яго ў руцэ ў волі яго. Калі хочаш, выканаеш запаведзі і захаваеш вернасць. Ён прапанаваў табе агонь і ваду: на што хочаш, працягнеш руку тваю. Перад чалавекам жыццё і смерць, і чаго ён пажадае, тое і дасца яму" (Сір 15,11-17). "Разважлівы зло бачыць і адварочваецца, неразважлівы ідзе туды – і церпіць страты" (Прып 22,3).

> **З даўніх часоў людзі задаюць сабе пытанне: "Чаму Бог дапускае пакуты?"**

Гэтае пытанне таксама вядомае як пытанне тэадыцэі. Тэрмін "тэадыцэя" паходзіць са старажытнагрэцкай мовы (ад *theós* – Бог і *díkē* – справядлівасць) і апісвае такі момант у назіранні за сусветам і чалавекам у ім, у якім Божая ўсемагутнасць і Божая дабрыня здаюцца несумяшчальнымі. Гэта раздзел тэалогіі, які займаецца праблемай, як прымірыць існаванне дабрага, міласэрнага Бога з існаваннем зла. Філосафу Эпікуру (341-270 гг. да н.э.) прыпісваецца класічная фраза: "Або Бог, хоць і хацеў бы ліквідаваць зло, не можа гэтага зрабіць: тады Бог слабы; або Ён можа гэта зрабіць, але не жадае гэтага: тады ён слабы і злосны адначасова, гэта значыць, ён не Бог".

Што кажа Святое Пісанне пра такую "супярэчнасць"? Святое Пісанне звязвае пытанне тэадыцэі ў асноўным з постаццю Ёва. Толькі ў Кнізе Ёва было закранутае старазапаветнае перакананне, што хваробы і пакуты з'яўляюцца пакараннем для чалавека, які адыходзіць ад Бога, і што праведнікі будуць благаслаўлёныя шчасцем і багаццем. Вядома, што жыццё па Божых запаведзях часта з'яўляецца шчаслівым жыццём, і не абавязкова ўсім верным Богу будзе дадзены лёс Ёва. Памылкова, аднак, аўтаматычна трактаваць пачатак няшчасця як Божую кару. Біблейскі Ёў ("Гэты чалавек быў нявінны і справядлівы; ён баяўся Бога і пазбягаў зла" (Ёў 1,1)) падвяргаўся ўсім пакутам, якія можа выпрабаваць чалавек. Яго жонка нават заклікала яго праклясці таго Бога, Які дазваляе гэтаму адбывацца. Але Ёў не дазволіў ні жонцы, ні ілжывым суцяшэнням і спробам тлумачэнняў адвесці яго ад веры: "Калі мы прынялі добрае ад Бога, чаму б нам не прыняць дрэннага?" (Ёў 2,10).

Пытанне аб пакутах вырашаецца не толькі тэарэтычна ў асобе Ёва, але таксама канкрэтна і гістарычна. Бог аб'яўляе сябе і прысутнічае ў разгар драмы чалавечага існавання як міласэрны Бог: "Я паглядзеў на няшчасці майго народа ў Егіпце, Я чуў іх крык пад бізуном іх наглядчыкаў, таму Я ведаю веліч іх пакут" (Зых 3,7). Гэта таксама бліскуча прадстаўлена ў св. апостала Якуба, які кажа: "Вы чулі пра трываласць Ёва і ведаеце, як урэшце ўзнагародзіў яго Пан, бо Пан поўны міласэрнасці і доўгацярплівасці" (Як 5,11). З Езусам прыходзіць упэўненасць: нам не трэба адмаўляцца ад пакутаў, таму што Бог не адмаўляецца ад нас. "Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Ян 3,16). Бог на крыжы як Адзін можа супрацьстаяць болю за нявінныя пакуты ўсяго стварэння. "Крыж сапраўды з'яўляецца месцам, дзе дасканала выяўляецца спачуванне Бога да нашага свету" (Папа Бэнэдыкт XVI).

"Зло ў свеце – цёмная і балючая таямніца" (YOUCAT, 51). Езус перад тым, як патрапіць у пастку смерці, у смяротным страху пасылаў пытанні ў, здавалася б, маўклівае неба. Айцец не перашкодзіў Яму ісці на крыж – і Езус не пазбег сваіх страшных пакутаў. "Хрыстус, наш Адкупіцель, выбраў крыж, каб несці віну свету і пакуты свету. Такім чынам ён вярнуў свет да Бога праз сваю дасканалую любоў" (YOUCAT, 101).

Хрысціянская вера ў дадзеным пытанні грунтуецца на як мінімум двух сцвярджэннях (яны вынікаюць з Бібліі). Першае мы ведаем дакладна: Бог добры. Ён ніколі не можа зрабіць нічога дрэннага. Бог больш не быў бы Богам, калі б Ён быў і добрым, і дрэнным адначасова. Такім Богам можна толькі пагарджаць. Але калі Бог не прычына нашых няшчасцяў, то хто? Другое сцвярджэнне – Бог не хоча, каб людзі пакутавалі і паміралі. Кроў і слёзы чалавецтва часта маюць чалавечыя і натуральныя прычыны. Сапраўды, не толькі жахлівыя тыраны адпраўляюць масы людзей у крэматорыі ў канцлагерах або мораць голадам мільёны людзей. Мы таксама штодзённа ўносім свой уклад у няшчасці свету.

> **Мы настолькі свабодныя, што можам знішчыць сябе, сваіх суседзяў і сваё прыроднае асяроддзе.**

Нябачны, на першы погляд, цёмны адвар граху пакрыў і атруціў усё, што існуе. Нават стыхійныя бедствы – такія, як ураганы, землятрусы, пандэміі – гэта лагічная рэакцыя свету прыроды на зверствы, якія людзі робяць адно з адным. Таму чалавецтва пытаецца ў сябе: "Як мы дайшлі да таго, што добрае, праўдзівае і прыгожае ў стварэнні стала такім жахлівым і такім разбуральным?" Бо першапачатковай ідэяй Бога для чалавека быў рай: вечнае жыццё і супакой паміж Богам, чалавекам і яго асяроддзем, паміж мужчынам і жанчынай. Дык чаму ж мы страцілі гэты рай? Таму што Бог не стварыў нас пасіўнымі марыянеткамі. Ён зрабіў нас падобнымі да сябе і даў нам тое, што можа даць толькі Бог: амаль бязмежную свабоду. Гэта рызыка! Дзякуючы свабодзе можна стаць забойцам. Але ідэя была іншая: у "свабодзе мы павінны выбіраць Бога, любіць Яго вышэй за ўсё, рабіць дабро і пазбягаць зла, як толькі гэта можам" (YOUCAT, 285).

Такім чынам, ці ж можна сказаць, што

> **свет – гэта няўдалы эксперымент Бога?**

Ці не было б лагічна, каб Бог зноў паслаў вялікі патоп, у якім разбэшчанае чалавецтва зноў патоне? Але Бог не такі. "Бог ёсць любоў" (1 Ян 4,8). Бог робіць нешта незразумелае: Ён не знішчае нас. Ён таксама не незалежны назіральнік, які трымаецца ў баку ад нашай сітуацыі. Ён дазваляе трагедыі чалавецтва дайсці да яго сэрца – сэрца, поўнага міласэрнасці. Ён пасылае нам свайго Сына на верную смерць ад рук чалавека! Гэта каб сказаць нам, што там, дзе пакутуюць людзі, там пакутуе і Бог. Ён пакутуе ў сваім Сыне, Які стаў Чалавекам так, бо жадае пацвердзіць дасканалую любоў, любоў без межаў, любоў, у якой адзін аддае жыццё за другога. І пакутуе Ён так, што ніхто ніколі не можа сказаць: "Я ведаю месца, дзе цябе, Божа, не было: у маім болі!" Бог у Езусе ўкрыжаваным нібы кажа: "Глядзі, я невінаваты, я таксама нясу і твае пакуты!"

Праз асобу Езуса ў сваім усеагульным спачуванні Творца свету будуе нам, людзям, шлях назад у рай, мост праз бездань смерці. Хрысціяне справядліва вераць, што Езус Хрыстус – гэта адзіны шлях, адзіны мост да жыцця. "Няма іншага імя пад небам, якое можна было б даць нам, – гаворыцца ў Дзеях Апосталаў, – якім мы будзем збаўлены" (Дз 4,12). Менавіта Езус бярэ на свае плечы ўсё, што невыносна для людзей. Бо гэта мы павінны былі б плаціць за ўсе нашы няўдачы і грахі. Аднак Ён аплачвае ўсе "непагашаныя" рахункі. Мы павінны былі б пакутаваць з-за многіх няшчасцяў, якія мы наклікалі на сябе. Але Ён узяў на крыж нашы грахі і грахі ўсяго свету. Мы павінны былі б памерці ў пакаранні. Але Ён паміpae за нас – і каб адкрыць нам шлях назад у рай, Ён памірае самай жахлівай смерцю, якую старажытны свет прыдумаў для найгоршых злачынцаў: самай жорсткай смерцю на крыжы. Айцец вывеў Яго з валадарства смерці! Уваскрасенне Езуса – гэта той мост, які выводзіць нас з мімалётнасці і марнасці нашых дзён. "Паколькі смерць ужо не канец усяго, радасць і надзея прыйшлі ў свет" (YOUCAT, 108).

У любым выпадку хрысціяне маюць упэўненасць, што пасля ўсіх пакутаў узыходзіць сонца Вялікадня. Св. Францішак Сальскі гэта пацвярджае: "Нашы пакуты былі б цяжкімі, як горы, калі б нам давялося несці іх у адзіноце. Але гэта ярмо Пан дапамагае нам несці, а нават Ён нясе і нас саміх".

*Літаратура:*

*1) Youcat по-русски. Молодежный катехизис Католической Церкви, Москва 2014.*

*2) Dobrzeniecki M., "Problem zła w teologii współczesnej", Teologia w Polsce 11,2 (2017), с. 167-182.*

*3) Hubaczek K., Bóg a zło. Problematyka teodycealna w filozofii analitycznej, Wrocław 2010.*

*4) Hick J., Evil and the God of Love, London 1977.*

*5) Hubaczek K., Bóg a zło. Problematyka teodycealna w filozofii analitycznej, Wrocław 2010.*

***Кс. Валерый Марціноўскі***
*Доктар тэалогіі*
*Віцебск*

# ПАЗНАВАЙКА

У гэтым нумары будзем разважаць над кнігай прарока Ёны. Прачытай уважліва кнігу прарока Ёны і выканай нашыя заданні.

## 1.

Калі разгадаеш рэбус, даведаешся назву горада, у які Гасподзь паслаў прапаведваць Ёну.



| | 2. | | | 4. | |
|---|---|---|---|---|---|



| | | | | 6. | |
|---|---|---|---|---|---|



| | 5. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|



| | | | | | 1. | 3. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

**АДКАЗ:**

| 1. | 2. | 3. | 4. | 5. | 6. |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

## 2.

Ёна хаваўся ад аблічча Госпада на караблі. Але Бог падняў на моры вялікі вецер і зрабілася вялікая бура. Карабель пачаў танучь. Успомні як людзі на караблі даведаліся, што гэтая бура пачалася па прычыне Ёны. Выберы правільны адказ:



А) Ёна прызнаўся сам
Б) Кінулі жэрабя і ўпала на Ёну
В) Сусед Ёны ведаў гэтую справу і расказаў іншым

## 3.

Ёну кінулі ў мора і вялікая рыба праглынула яго. Якая гэта была рыба? Выберы правільны адказ:


А) Залатая рыбка


Б) Акула


В) Кіт

## 4.

Праз тры дні рыба выкінула Ёну на бераг. Дапамажы рыбе хутчэй даплыць да берага.



## 5.

Прыпомні сабе колькасць жыхароў горада Нінівы і выберы правільны адказ:

А) Больш за 100 тысяч чалавек
Б) Больш за 120 тысяч чалавек
В) Больш за 150 тыс чалавек





Памятай:
Канікулы – час адказнай свабоды. Свабодным можаш быць толькі з Езусам!

*Мастачка: Вольга Будкіна; ідэя: Вікторыя Арфеева*



## Айцы-езуіты запрашаюць на Ігнацыянскія рэкалекцыі ў Навагрудак

16 – 23 жніўня ў Навагрудку айцы-езуіты ў чарговы раз прапануюць Ігнацыянскія рэкалекцыі. Духоўныя практыкаванні праходзяць у маўчанні, кожны дзень адбываецца размова з духоўным кіраўніком.

Да ўдзелу запрашаюцца вернікі, кансэкраваныя асобы і святары. Для тых, хто будзе ўдзельнічаць першы раз, прадугледжаны больш кароткі тэрмін рэкалекцый.

Запісацца можна да 30 мая.

**Больш падрабязная інфармацыя і запіс:**

+375 (44) 465-18-78;
+375 (29) 511-19-74
(с. Вікторыя Жук MSF)

e-mail: jezuity.by@gmail.com

## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам A1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

*Рэдакцыя сайта Catholicnews.by*

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**
1 – В; 2 – Б; 3 – А; 4 – А; 5 – Б; 6 – А; 7 – В; 8 – Б; 9 – А; 10 – А

# Каляндар на чэрвень

**1** чэрвеня – успамін св. Юстына, мучаніка;
**2** чэрвеня – успамін святых Марцэліна і Пятра, мучанікаў;
**3** чэрвеня – успамін св. Караля Луангі і паплечнікаў, мучанікаў з Уганды;
**5** чэвеня – урачыстасць Нядзелі Спаслання Святога Духа;
**6** чэрвеня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Касцёла;
**9** чэрвеня – свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара;
**11** чэрвеня – успамін св. Барнабы, апостала;
**12** чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы;
**13** чэрвеня – успамін св. Антонія Падуанскага, святара і доктара Касцёла;
**21** чэрвеня – успамін св. Алаізія Ганзагі, законніка;
**22** чэрвеня – успамін св. Джона Фішара, біскупа, і Томаса Мора, мучанікаў;
**23** чэрвеня – урачыстасць Нараджэння св. Яна Хрысціцеля;
**24** чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса;
**25** чэрвеня – успамін Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі;
**27** чэрвеня – успамін св. Кірыла Александрыйскага, біскупа і доктара Касцёла;
**28** чэрвеня – успамін св. Ірэнэя, біскупа і мучаніка;
**29** чэрвеня – урачыстасць святых Пятра і Паўла, апосталаў;
**30** чэрвеня – успамін св. Першамучанікаў Рымскага Касцёла.

## Арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч маліўся ў Барсуках ва ўспамін святога Юрыя

**23 красавіка Каталіцкі Касцёл успамінае мучаніка святога Юрыя – рымскага воіна. Выява гэтага святога, які паражае цмока, – адзін з самых папулярных сюжэтаў у іканапісе і сакральнай скульптуры.**

■ Леанід Юрык

У в. Барсукі (Докшыцкі дэканат) капліца мае тытул святога Юрыя, і мясцовага пробашча таксама завуць кс. Юрый Бараўнёў. З гэтай нагоды ў маленькую вёсачку завітаў ганаровы госць – арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч. Разам з ім маліўся яшчэ адзін святар – куратар першага курса Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне кс. Павел Эйсмант.

Арцыбіскуп Тадэвуш ахвяраваў св. Імшу ў інтэнцыі жыхароў парафіі, каб заступніцтва святога Юрыя дапамагала бараніць і жыць паводле хрысціянскай веры.

Падчас гаміліі іерарх распавёў пра жыццё святога. Арцыбіскуп Тадэвуш заклікаў быць жывымі сведкамі хрысціянства ў нашых сем'ях, на працы, каб "людзі бачылі ў нас сапраўдных хрысціян, а мы сталі жывымі старонкамі Бібліі".

Жыхары в. Барсукі скіравалі словы ўдзячнасці арцыбіскупу Тадэвушу за прысутнасць на парафіяльнай урачыстасці і павіншавалі свайго пробашча Юрыя, які ў гэты дзень адзначаў імяніны і народзіны. У сваю чаргу, ксёндз Юрый шчыра падзякаваў парафіянам, якія заўсёды дапамагаюць і падтрымліваюць святара.







**Каталіцкі ВЕСНІК**
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2355

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2700 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 19.05.2022 г. у 12.05

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь